
Гафт у Гайнаўцы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Пісьмы Алеся Белакоза → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3235) Год LXIII Беласток, 13 мая 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Татарская юрта сям'і Багдановічаў заўсёды была перапоўненая пахам татарскай кухні, гасціннай атмасферай і людзьмі, якія прыязджалі сюды з розных куткоў свету. Пасля пажару па гэтым месцы засталася куча перапаленых дошак і сумны краявід. Аднак атмасфера, якую стваралі цягам сямнаццаці гадоў уласнікі аграсядзібы, засталася. Дзякуючы гэтаму месца далей жыве, радуе і дае надзею на будучае.**

# Адбудуюць Татарскую юрту



## Апора татаршчыны

Кожны, хто меў магчымасць наведаць Крушыняны, ведае, што гэта адно з нямногіх месцаў на карце Польшчы, у якім безупынна ад 300 гадоў жывуць татары.

Вёска была, верагодна, заснавана ў канцы шаснаццатага стагоддзя. У канцы сямнаццатага стагоддзя кароль Ян III Сабескі пасяліў тут ліпкаў (так называлі мусульман, якія ваявалі на польскім баку з туркамі). Жыў тут, між іншым, Самуэль Мурза-Кшачоўскі, які выратаваў караля ў бітве пад Парканамі.

Татарская юрта — аграсядзіба, якой кіруе Джанэта Багдановіч і яе сям'я, гэта вядомае месца ў цэлай Польшчы. Там можна было паспрабаваць арыентальныя прысмакі, страляць з лука, атрымліваць асалоду ад прыроды. Але, што самое важнае, гэта было месца, у якім захоўвалася памяць аб гісторыі і згодным суіснаванні на гэтых землях каталікоў, праваслаўных, мусульман і габрэяў.

## Згарэла месца шматкультурных сустрэч

Дзевятнаццаць пажарных машын тушыла пажар Татарскай юрты ў Крушынянах. «На той час гэта канец», — напісалі на фейсбуку пасля пажару ўласнікі аграсядзібы.

Пажар у Татарскай юрце ў Крушынянах здарыўся ў ноч з 30 красавіка на 1 траўня. На шчасце ніхто не пацярпеў. У будынку знаходзіліся працаўнікі аграсядзібы і госці, якія прыехалі адпачыць на час травеньскіх выхадных. Пажарныя машыны з'ехалі амаль з цэлага Сакольскага павета, а таксама з суседніх гмін Беластоцкага павета.

— Страх было ўглядацца. Мы ўсе тут плакалі, — кажа суседка Таццяна Міхайлава. — Мы яшчэ баяліся, каб агонь не пайшоў на суседнія будынкі. Такі тады вецер страшэнны быў... Але тут усё было дзеравянае, нічога ўжо не можна было ратаваць.

Агонь з'явіўся перад 23 гадзінай. Згарэла ўся маёмасць уласнікаў, у тым ліку татарскія касцюмы, альбомы, сямейныя архівы. Страты ад пажару ацэньваюцца на паўтара мільёна злотых.

— Гэта ўсё, што мы мелі, — кажа ўласніца Татарскай юрты Джанэта Багдановіч. — Гэта наша месца ад пакаленняў. Раней мы прыязджалі сюды да нашага дзеда. Сядалі, супольна пілі гарбату, запрашалі гасцей, апавядалі пра нашу культуру. Пазней самі сюды з'ехалі, каб яшчэ нешта зварыць, пачаставаць... Мы так пачыналі. Пачыналі з традыцыі.

Цягам сямнаццаці гадоў юрта была не толькі прыязным месцам для турыстаў, але перш за ўсё домам сям'і Багдановічаў. Ад пажару згарэлі традыцыйная сямейная татарская вопратка, фотаздымкі, памяткі па продках.

— Мы зараз цешымся, што ўдалося забраць рэчы нашых гасцей, — падкрэслівае Багдановіч. — Мы не падумалі нават, што амаль дашчэнту згарыць наш дом. Спадзяваліся, што прынамсі частку ўдасца выратаваць. Прапала ўсё.

Многія людзі прыехалі пасля пажару ў Крушыняны. Дапамагалі ва ўборцы спаленых частак аграсядзібы і ў іншых працах. Дапамога прыйшла таксама, вядома, ад суседзяў і аднавяскоўцаў. Для Багдановічаў гэта быў сігнал, што іх з гэтай вялікай бядой не пакінуць самых.



## Супольная справа розных меншасцей

Ужо 3 траўня ў Беластоку пачаўся збор грошай для пагарэльцаў. У час фэсту «Супольная незалежная» прадстаўнікі ўсіх падляшскіх меншасцей, у тым ліку беларускай, сустрэліся на мерапрыемстве, якое таксама было нагодай для падтрымкі Татарскай юрты.

— Страты — гэта 1,5 мільёна злотых, таму кожная залатоўка вельмі важная, — кажа старшыня Фонду Татарскае культурнае таварыства Роза Хазбіевіч. — У час фэсту «Супольная незалежная» ўдалося сабраць 3 тысячы злотых. Там мы былі ўсе, усе меншасці разам. Гэтага таксама вучыла аграсядзіба Татарская юрта. Вучыла ўражлівасці на іншых. І далей вучыць.

Ужо 3 траўня ўласнікі Татарскай юрты абвясцілі, што плануюць адрамантаваць аграсядзібу. Рушыў таксама інтэрнэт-збор грошай на сайце pomagam.pl. На той момант дапамагло амаль 400 асоб, якія перадалі на Татарскую юрту 23 тысячы злотых.

— Мы рады і здзіўлены той вялікай колькасцю розных ініцыятыў, мэта якіх — сабраць сродкі для аднаўлення Татарскай юрты. Гэта вельмі важная справа, — адзначыў старшыня мусульманскай гміны ў Крушынянах Браніслаў Талькоўскі. — Мы зараз разумеем, што для многіх людзей з усёй Польшчы наша культура важная. Я сам атрымліваю шмат тэлефонаў, паведамленняў па пошце ад людзей, якія жадаюць нас падтрымаць. Ведаю, што яны разам з сям'ёю Багдановічаў і з нашай татарскай супольнасцю.

Таксама адкрыўся дабрачынны рахунак, у пераводзе якога трэба пазначыць «Адбудуем Татарскую юрту». Уся інфармацыя змешчана на старонцы Татарскай юрты на фейсбуку.

## Дабрачынны пікнік

Ужо 3 траўня ўласнікі Татарскай юрты запрашалі да сябе гасцей. Хаця будынак згарэў, пакаштаваць татарскай кухні можна было ў суседнім будынку на тэрыторыі Цэнтра мусульманскай культуры польскіх татараў. Затое 6 траўня адбылося тут вялікае мерапрыемства. «На помач Татарскай юрце ў Крушынянах» — пад такім загалоўкам прайшоў дабрачынны пікнік, які сцягнуў да спадарства Багдановічаў сотні людзей.

— Гэта неверагоднае! Так шмат прыехала людзей, — гаварыла ў час пікніка Джанэта Багдановіч. — Мы стварылі гэтае месца як прыватныя асобы. Нягледзячы на нішто шмат арганізацый, гуртоў, гмін і прыватных людзей пажадала нам дапамагчы. Гэта дае нам сілу, каб узяцца за работу. Згарэў толькі будынак, але месца, дзе хочуць прыязджаць людзі, засталося.

Дабрачынны пікнік пачаўся з выступаў лакальных калектываў. У час мерапрыемства праходзілі таксама аўкцыёны карцін, кніжак ды іншых вартасных прадметаў, якія перадалі ахвяравальнікі. Абавязкова ўсе прысутныя маглі пакаштаваць той самай смачнай татарскай кухні, якую каштавалі ў згарэлым будынку Татарскай юрты.

— Удасца, мы тут разам, — адзначыла Роза Хазбіевіч. — Я веру, што яшчэ ў гэтым годзе будзем маглі смачна паесці ў Татарскай юрце.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**





# Хакейная ілюстрацыя

Хакейная зборная Беларусі бясслаўна стартавала на чэмпіянаце свету па хакеі, што праходзіць зараз у Даніі. Забягаючы наперад, можна смела прагназаваць, што ў лепшым разе Беларусь з цяжкасцю захавае месца ў мацнейшым дывізіёне (у яго, нагадаю, уваходзіць 16 мацнейшых дружын свету). Але і верагоднасць, што давядзецца пакінуць „вышэйшы свет" на гэты раз надзвычай высокая.

З часу выхаду на міжнароднай арэне ў эліту, а было гэта, прыпомню для шаноўных чытачоў, у 1997 годзе (сам дэбют адбыўся ў 1998), зборная Беларусі перажыла ўжо некалькі пакаленняў гульцоў, змяніла дзясятак галоўных трэнераў. Здараліся за гэты перыяд і лакальныя ўдачы, і нават сенсацыя, як на алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці ў 2002 годзе, калі дружына Беларусі выйшла ў паўфінал і заняла выніковае 4-е месца. Але яшчэ ніколі Беларусь не мела настолькі слабой каманды, як зараз. Хоць не менш дваццаці гадоў хакей дэкларуецца ў нашай дзяржаве як спорт нумар адзін, на яго ідзе вялізны працэнт сродкаў у параўнанні з іншымі відамі. Нездарма і хакейную федэрацыю краіны ўзначальваюць па традыцыі надзвычай высокапастаўленыя начальнікі. На яе чале пабывалі і некаторыя міністры-сілавікі. Але паспяхова развіваць тэхнічна складаны від спорту — гэта не мітынгі дэманстрантаў разганяць ды на апазіцыянераў паляваць. Тут патрэбная адладжаная і разумна прадуманая сістэма. Бо выступ на чэмпіянаце свету — гэта не ўдзел у пацешным Калядным турніры, які штогод з упартай паслядоўнасцю выйграе каманда дзяржаўнага „хакеіста нумар адзін". Праўда, пару разоў давялося саступіць і там першынства „старэйшым братам" — відаць, надта ж патрэбныя ў тыя гады былі новыя крэдыты.

Сітуацыя з беларускім хакеем — гэта найлепшая ілюстрацыя таго, як усё развіваецца, дакладней дэградуе, у Рэспубліцы Беларусь. Шмат пустых дэкларацый, процьма непрадуманых рашэнняў, ідэалагічныя „напампоўванні", чыноўніцкі валюнтарызм. Вось набудавалі гэтых вялізных лёдавых палацаў, а пасля выявілася, што яны зусім нерэнтабельныя, акупіць сябе не могуць. Дык і чаму развіваць нам менавіта хакей, дастаткова дарагі від спорту ў параўнальна беднай нашай дзяржаве?! Што ў нас такая магутная эканоміка як у Швецыі, Германіі ці Канадзе, ці нават моцная як у Чэхіі ці Славеніі? Ці такія прыродныя рэсурсы і „шалёныя" ад іх грошы, як у Расеі? Таму і дагналі і перагналі нас у тым жа хакеі такія краіны як Нарвегія, Данія, Славенія, таму і трэба забывацца, што яшчэ зусім нядаўна на „старым багажы" мы былі ў хакеі на роўні з Германіяй і Францыяй і нават часцей перамагалі іх. У нашай, пакуль сціплай дзяржаве, куды выгадней было б развіваць такія віды як тэніс, баскетбол, валейбол, гандбол. Асабліва перспектыўнымі гэтыя віды спорту выглядалі ў жанчын, ды і зараз яшчэ яны неблагія. Браць прыклад з тых жа балканцаў — харватаў, славенцаў, альбо ісландцаў, выбудоўваць піраміду ад дзіцячых да дарослых каманд. Вось малая па насельніцтве Ісландыя зрабіла спярша стаўку на гандбол і вывела сваю мужчынскую дружыну ў эліту, якая ажно сярэбраныя алімпійскія ўзнагароды заваявала. Потым астравіцяне сістэмна ўзяліся за футбол і ўжо зараз моцна выступаюць на моладзевым роўні, а нацыянальная зборная стала рэгулярна выходзіць на топ-турніры і не губляецца ў эліце.

У Беларусі ж усё бесталкова. Калі ў начальніка дзяржавы і Нацыянальнага алімпійскага камітэта ўлюбёная цацка — хакей, то і высілкі чыноўнікаў скіраваныя найперш на гэты від. Пры гэтым ніхто не падумаў, што хапіла б на Беларусь і 6-7 лёдавых арэн і адпаведна столькі ж хакейных клубаў — адпаведна ўзрасла б і канкурэнцыя і ўзровень нацыянальнага чэмпіянату. А за кошт іншых палацаў можна было б пабудаваць соткі тэнісных кортаў, дваровых баскетбольных упарадкаваных пляцовак і таму падобнага. Таленты ж не пераявіліся, проста іх трэба дагледзець і ўзгадаваць. Перад вачыма, яшчэ раз паўтаруся, выдатны прыклад тых жа пост'югаслаўскіх краін. Але ж ісці разумным і правераным шляхам ніхто ў нас не збіраецца. Паралельнае ж развіццё фізкультуры і масавага спорту — іншая, хоць і вельмі блізкая тэма. Пра гэта неяк іншым разам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Парадокс няпраўды

У апошні час я не адчуваў сябе добра. Фізічна я быў паўтруп — што б гэта не значыла. Цяпер мне палепшала на чвэрць таго, што я адчуваў. Так, па-чалавечы кажучы, я значна папраўіўся. Толькі што нешта ў маім рахунку не складваецца. Таму што звярніце ўвагу, што «палова» роўна ў два разы больш, чым «чвэрць». Так што, калі ў «паўтрупе» палова жыцця, у чвэрці трупа, з матэматычнага пункту гледжання, павінна яго быць у два разы менш, адпаведна. На самой справе, дакладна наадварот. Адсюль вынікае, што логіка матэматыкі не супадае з логікай жыцця. Такім чынам, мы маем справу з дзвюма асобнымі лагічнымі структурамі, кожная з якіх з'яўляецца правільнай толькі калі ні адна з іх не выходзіць за межы самой сябе. Ну, і, але калі гэта зробіць, знаходзіцца пад строгім парадкам сваіх уласных законаў, якія іх тонка рэгулююць. Але гэта іншае пытанне.

Гэта смешна і страшна ў той жа час, калі хтосьці спрабуе навязаць абодвум логікам агульны назоўнік. Можна гэта назваць спробай стварэння парадоксу. Парадокс узнікае, калі нейкая думка пацвярджае сваю ўласную памылковасць. Але тады яна не можа быць лагічна ні праўдзівай, ні ілжывай. Калі хтосьці шукае парадоксы, можа, безумоўна, знайсці іх у польскіх рэаліях. Я прызнаю, што іх няюмала ў польскай палітыцы за апошнія два гады. Часам вельмі смешных. Але мне па гэтай прычыне зусім не смешна. Перш за ўсё тады, калі строга матэматычная логіка і жыццё супярэчыць здароваму сэнсу, але маюць агульны назоўнік. Такім чынам, яны зводзяцца да функцыі парадоксу і, відома, не самі па сабе. Хтосьці ўпарта боўтае ў нашых галовах. Хтосьці нахабны. І шчыра кажучы, ён гэта свядома робіць, падманвае.

Возьмем у якасці прыкладу папулісцкую праграму «Сям'я 500+», якая мае разбудзіць у паляках дэмаграфічны патрыятызм. Пасля больш дзесяці месяцаў палавога намагання крывая родаў значна знізілася, пра што сведчаць надзейныя статыстычныя паказчыкі. На жаль, нават аптымістычныя дэмаграфічныя прагнозы ў гэтым пытанні... песімістычныя. Такім чынам, палякаў, хутчэй за ўсё, у бліжэйшы час больш не будзе ды пачне меншаць іх лік у такім тэмпе, з якім страчваюцца мільярды з дзяржаўнага бюджэту на фінансаванне патрыятычнага мацярынства. Палітыкі, якія прадстаўляюць ПіС, віноўнікі гэтай надзвычай дарагой праграмы, аднак, сцвярджаюць, што палякі дамагліся поспеху. Праўда, паспех... Але не палякаў, толькі партыі Права і справядлівасць. Я б назваў гэта поспехам парадаксальным. З жыццём палякаў мае ён мала агульнага. Гэта значыць, парадаксальна, на думку некаторых з іх, а паводле іншай часткі — не мае. І ўсе яны, здаецца, маюць рацыю. Толькі што гэтыя меркаванні з'яўляюцца ўзаемна супярэчлівымі. Як гэта трэба разумець?

ПіС, вядома, кажа, што яно не хлусіць. На самой справе, не хлусіць. Але толькі тады, калі хлусіць. Гэта стары, патрапаны парадокс. І гэта называецца парадоксам ілгуна.

Яго аўтарства прыпісваецца Эўбуліду з Мілета, які спаслаўся на заяву нейкага ўраджэнца Крыта Эпіменіда, што «ўсе крыцяне хлусы». Гэта нонсэнс, чмыхнуў спачатку Эўбулід, таму што калі выказаць здагадку, што Эпіменід сказаў праўду, ён як крыцянін схлусіў, бо ўсе жыхары Крыта, паводле яго слоў, з'яўляюцца хлусамі. Вось і ён хлус. А калі ёсць інакш і Эпіменід схлусіў, ён тады сказаў праўду ў той жа час. Дык што праўда, а што такое — хлусня?

Парадокс хлуса, на самой справе, гэта не матэматычнае зацвярджэнне. Сёння ён лічыцца больш лінгвістычнай няўзгодненасцю, адлюстроўваючай чалавечае жыццё, чым лагічнай супярэчнасцю, якая з'яўляецца ядром строгай матэматыкі. Асабіста я адчуваю сябе супакоеным. Я люблю парадоксы, як галаваломкі. Не ў якасці рэальнай пагрозы. Я люблю матэматыку для матэматыкі і жыццё для жыцця. Хай матэматыка будзе матэматыкай, а жыццё жыццём. А ПіС — ПіСам, а Дзяржава — Дзяржавай. На жаль, хтосьці вельмі хоча, каб стварыць новы палітычны парадокс — верагодна для таго, каб грамадзяне памалілі над ім галовы. Бо пачалі б думаць па-іншаму. Па-сапраўднаму. Ці ПіС гэта Дзяржава? А Дзяржава — ПіС?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Бульба
## — справа гонару і сораму

За намі доўгі, адпачынкавы майскі тыдзень. Ну, хіба зразумелая ўсім справа, што каб хтосьці мог адпачываць, нехта другі мусіць працаваць. Адвечная праўда зямной тузаніны, а таксама эканамічных гонак міру. Ад вышэйсказанага ёсць адно адступленне выключна культуралагічна-цывілізацыйнай натуры і кранае яно нас, беларусаў, асабліва на Падляшшы. Гэтая з'ява ўжо амаль сакральнага характару і мае сваё імя, якое завецца першамайскай пасадкай бульбы. Так як маем штогадовы цыкл абрадава-рэлігійных святаў, то ў сэнсе генетычнай сялянскай спадкаемнасці гэтая дата таксама значыцца чырвоным колерам у сямейных календарах аўтахтонаў Беласточчыны. Вядома, аднак, што ў працоўным сэнсе з гноем і бульбай. З асабістага панадворка добра ведаю, што многія мае сябры і сяброўкі надалей у гэты дзень займаюцца на бульбяных загонах і агародах. Ад зямлі і дзедаўскай ды бацькоўскай спадчыны нікуды не ўцячы.

Таму едуць гарадскія, папанелыя выхадцы ўжо не за паршуком, якіх звяла дзяржава ў нашых вёсках, але паўдзельнічаць у абрадзе адчування зямлі пад нагамі і нябеснага космасу па-над галовамі. Едуць не толькі з усіх гарадоў Беласточчыны, але і розных куткоў Польшчы, каб стаць на зважай перад генетычным выклікам. Некаторым нават прыходзіцца, заціснуўшы зубы, працаваць з рознымі траўмамі і хваробамі. На ўласныя вочы бачыў я нават людзей з гіпсам на руках і нагах, якія накідвалі бульбу з кошыкаў, або кіравалі трактарамі адной рукой, ці адной нагой, не гаворачы пра сенёраў роду, якія ад цяжару нават перакульваліся на сваім полі. Пасля такой экспедыцыі большасць з іх цудоўна не здаравее, але, наадварот, тэмпаў набіраюць большыя і новыя болі і хваробы ў кожнай часцінцы цела. Але традыцыя ёсць традыцыяй і пакуль яна жыве, дык няхай трымаецца дзеля будучыні і неразславання нашых бацькоў.

У гэтым годзе я таксама атрымаў маўклівы выгавар з боку бацькі, што не з'явіўся на рытуальнае свята. Хаця было каму і пасадзіць бульбу, і закласці агарод, то аднак сямейная пляменнасць абавязвае ўсіх быць тады разам, нягледзячы на іншыя абавязкі. Бо як жа ж гэта выглядае перад аднавяскоўцамі! Хаця, як у маім выпадку, няма ўжо тых аднавяскоўцаў і няма аніякай суседскай гонкі ў гэтай справе. Як распавяла мая сяброўка, гэта яна з сёстрамі атрымала ў гэтым годзе матчыны выгавар, што суседскія дзеці больш працавітыя, бо ўжо справіліся з работай пры закладанні агарода, а яны яшчэ не. Добра, што прынамсі брат спраўна пасадзіў бульбу машынай, кажа яна, а то і тут яшчэ б атрымалі некалькі слоў па вушах. Гэта і так вялікі прагрэс садзіць ці капаць бульбу трактарам і машынамі. Бацька аднаго майго знаёмага прызнаваў у гэтай справе толькі каня і плуг. А калі сам не быў у змозе гадаваць каня, то карыстаўся суседскімі паслугамі. Аднак і калі суседзі звялі коней, то збіраў сваю радню, каб рыдлёўкамі капалі зямлю і так здзейснілі першамайскі рытуал. Чарговы мой знаёмы амаль са слязамі прасіў знямоглых бацькоў, каб перасталі садзіць бульбу, бо ён сам жыў звыш трыста кіламетраў ад роднай хаты, а, маючы адказную пасаду, не мог спраўляцца не толькі з пасадкай бульбы, але і з яе доглядам ці капаннем. Абяцаў, што будзе купляць ім самую экалагічную і смачную картофлю ды не ад суседзяў, толькі будзе яе прывозіць з іншых вёсак ці рэгіёнаў, каб яны не саромелася гэтага факту перад суседзямі. У адказ заўсёды чуў з іх боку адзін папрок: «Ты пра нас не памятаеш». Адным словам, бульба — справа гонару і сораму для нашага сялянскага роду. Таксама не менш важнай з'яўляецца справа калектыўна-патрыярхальнага ладу жыцця, у якім сямейная ўзаемадапамога гэта зарука поспеху і ўзбагачэння. Толькі талака давала абарону і шанц справіцца з безліччу спраў і абавязкаў перад дзяржавай, недахопам грошай, ці выклікамі натуральнай гаспадаркі. «Адзін у полі не воін», — паўтаралі здаўна. Адна бульбіна, укінутая ў зямлю, пракарміла не раз і не адну сям'ю.

**Яўген ВАПА**



# Гафт і карункі Гайнаўшчыны

**У галерэі і на калідоры Гайнаўскага дома культуры працуе цікавая выстава мастацкага рукадзелля трыццаці творцаў. Гэта плён XI Агляду гафту і карунак Гайнаўскага павета 2018.**

Ужо традыцыйна на падвядзенне вынікаў агляду і адкрыццё экспазіцыі народнага і сучаснага рукадзелля прыбылі рукадзельнікі з сямейнікамі і гайнавяне, зацікаўленыя рукадзельным майстэрствам. Агляд адкрылі, дыпломы і падарункі рукадзельнікам уручылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, мастацкі кіраўнік дома культуры Ядвіга Лях-Кучкін і старэйшы інструктар па справах мастацтва Анна Тарасюк, адказная за арганізацыю агляду. Яшчэ да адкрыцця выставы перад сабранымі займальна спявала Ванда Гіншт са Студыі эстраднай песні ГДК.

— На работах, якія бачым на экспазіцыі, відаць мастацтва, прафесійнасць. Можам тут захапляцца карункамі, гафтам і новымі тэхнікамі рукадзелля, — сказаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

— У мінулым сурвэткі, абрусы, ручнікі і іншыя вышываныя і ўпрыгожаныя карункамі працы мы паказвалі ў невялікай зале на першым паверсе дома культуры, пазней прэзентавалі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Тады наша мерапрыемства называлася «Іголкай маляванае». Пазней узнік «Агляд гафту і карунак Гайнаўскага павета». Наш агляд разросся. Ад некалькіх гадоў мы ізноў ладзім бясконкурсны агляд, паказваем навейшыя работы рукадзельнікаў нашага павета, якія ў нас пастаянна прэзентуюць свае працы і чакаем прыкладаў рукадзелля новых творцаў, — сказала старэйшы інструктар Анна Тарасюк.

— Вельмі многа папрацавалі рукадзельнікі, каб выканаць прыгожыя, прэзентаваныя тут работы. Для іх выканання патрэбны былі таксама талент і вялікая цярплівасць, — сказаў дырэктар дома культуры Расціслаў Кунцэвіч.

Мастацкі кіраўнік Ядвіга Лях-Кучкін заявіла, што ўдзельнікі агляду імкнуцца разгортваць свае здольнасці і ўмеласці, дзяліцца вопытам з іншымі рукадзельнікамі. Праінфармавала, што на выставе прэзентуюцца таксама працы мужчын Барташа Шпаковіча, Міраслава Данілюка і Пётра Сегеня. Яны таксама майстры рукадзелля і займаюцца ў Майстэрні працатэрапіі і Павятовым асяродку сацыяльнай дапамогі ў Гайнаўцы, дзе займаюцца мяшанымі тэхнікамі і вышыўкай. Сабраныя захапляліся іх работамі, звяртаючы ўвагу, што такія здольнасці рэдка праяўляюцца ў мужчын. Барташ Шпаковіч з Белавежы на агляд падрыхтаваў бранзалеты з народнымі і сучаснымі аўтарскімі матывамі. На XI Агляд гафту і карунак Гайнаўскага павета трыццаць яго ўдзельнікаў давезлі і даслалі больш за сто работ. Гайнаўскі дом культуры да падвядзення вынікаў агляду выдаў буклет з выявамі лепшых прац.

— Удзельнікі агляду захоўваюць узоры і матывы народнага рукадзелля або выконваюць працы, інспіраванні мінуўшчынай і гэта дапамагае захаваць мясцовыя традыцыі выконвання карунак і гафту. Падчас агляду прэзентуюцца таксама новыя матывы і тэхнікі выконвання рукадзелля, што робіць яго багатым, — заявіла кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім Аліна Дэмбоўская.

— Я штогод прысутнічаю ў аглядзе з першага яго выпуску. Калі яшчэ вылучаліся месцы, я двойчы займала першае месца. Чатыры разы атрымлівала ўзнагароду, паколькі пазней агляд праводзіўся на бясконкурснай аснове. Былі ў мяне таксама вылучэнні. Мы прэзентуем сваё рукадзелле, каб паказаць наведвальнікам выставы, што мы зрабілі апошнім часам. Мы, пастаянныя ўдзельніцы агляду, ведаем адна другую, але мы рады, што паяўляюцца новыя ўдзельнікі. Я раней прывозіла ручнікі, вышываныя іконы, працы выкананыя кручком і вышыўку. Сёлета прэзентую сурвэты выкананыя кручком.



Адкрыццё XI Агляду гафту і карунак Гайнаўскага павета 2018. Злева стаяць: мастацкі кіраўнік Ядвіга Лях-Кучкін, старшы інструктар Анна Тарасюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч

Сваё рукадзелле я паказваю на выставах і прадаю, перш за ўсё падчас беларускіх фэстаў і на іншых мерапрыемствах, — сказала Галіна Бірыцкая з Плянты.

З Нараўчанскай гміны прыехалі таксама іншыя рукадзельніцы, а з імі — Кацярына Бяляўская з Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы, якая цікавіцца рукадзеллем, яго ўзорамі і матывамі.

— На агляд гафту і карунак Гайнаўскага павета свае працы дасылаюць жанчыны з нашай гміны. Так было і сёлета. На выставе прэзентуецца рукадзелле Галіны Бірыцкай, Малгажаты Краўчык, Люцыны Зданоўскай, Веры Осяк і Марыі Каральчук, — заявіла Кацярына Бяляўская з Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы.

З Плянты прыбыла таксама Малгажата Краўчык, якая сваё рукадзелле паказвае ўжо многа разоў.

— На выставе прэзентуецца мая макатка з матывам польскага бел-чырвонага сцяга. Гэты матыў навеяны сотай гадавінай незалежнасці Польшчы, якую адзначаем сёлета. Макатку састаўляюць падушачкі з вышытым народным матывам, у якія я зашыла пахучую лаванду, — гаварыла Малгажата Краўчык, якая свае вырабы часта паказвае на беларускіх фэстах разам з Галінай Бірыцкай з Плянты. Многа часу працуе яна з кручком, вышывае і займаецца разьбой.

Асобам, якія на сваіх працах змясцілі матывы, звязаныя з сотай гадавінай незалежнасці Польшчы, уручаліся датковыя падарункі. На экспазіцыі прэзентуюцца прыгожыя карункавыя працы заслужанай спявачкі беларускага хору «Цаглінкі» з Ляўкова Веры Осяк і прыгожыя сурвэты з цікавымі ўзорамі Марыі Каральчук з Нараўчанскай гміны.

Наведвальнікі экспазіцыі звярталі ўвагу на шыкарную біжутэрыю Анны Харытанюк. Яна штогод дастаўляла на агляд біжутэрыю, якая ацэньвалася ў катэгорыі сучаснага рукадзелля.

— Мода на біжутэрыю з сутажу прыбыла да нас з Францыі. Цяпер яна вельмі модная ў Расіі. Спецыяльна на агляд падрыхтавала я брошку, ашыйнік і зашчапку, якія зрабіла сутажнай тэхнікай. Гэтыя ўсе дробненькія дэталі я выплятала. Каб выканаць такую біжутэрыю, трэба многа працаваць. Рукадзелле — маё захапленне. Я шукаю новыя матывы для сваіх прац, карыстаюся таксама нашымі традыцыйнымі матывамі. Рукадзелле не дае мне прыбытку, але такі занятак мяне супакойвае. Калі работа ўжо закончана, яе рэзультат дае вялікае задавальненне. Усе мае работы — непаўторныя. Біжутэрыя неразлучная з вопраткай і таму на экспазіцыю я падрыхтавала і біжутэрыю, і вопратку, — гаварыла Анна Харытанюк, раней пераможца ў катэгорыі сучаснага рукадзелля.

Многа з пруткамі і кручком у руках працуе Юстына Самойлік. На выставе прэзентуюцца яе камплект з шалем і шапкай, прыгожыя хусткі і цікавыя ўпрыгожанні.

— Я вельмі люблю працаваць на прутках і з кручком. Гэта маё захапленне. Калі я ўцягнуся ў выкананне нейкага вырабу, ёсць ахвота папрацаваць і святам, бо гэта для мяне таксама спосаб адпачынку. Канешне, працую перш за ўсё буднямі, але тады многа прафесійных і сямейных абавязкаў, — сказала Юстына Самойлік.

Першае месца ў катэгорыі карунак займала раней Яніна Плева з Гайнаўкі, аўтарка карункавых прац. Іх выкананне



Анна Харытанюк з Гайнаўкі падрыхтавала і біжутэрыю, і вопратку

займае многа часу, але жанчыны Гайнаўскага павета наогул многа працавалі з кручком у руках у маладосці і надалей выконваюць карункавыя працы.

— Калі я выконваю свае працы кручком, тады адрываюся ад штодзённых праблем і забываю аб іх. Раблю я фіранкі, абрусы, сурвэты і такія вырабы прыношу на агляд. Перш за ўсё раблю іх на свае патрэбы і раздаю сваім дзецям і сябрам у якасці падарункаў. Карыстаюся традыцыйнымі ўзорамі і выпрацоўваю свае праекты, — сказала Яніна Плева, якая на гэты раз падрыхтавала на агляд выкананыя кручком фіранку з расліннымі матывамі і сурвэты. Займальныя працы даставіла на агляд сяброўка спадарыні Яніны, Зінаіда Бакун. На выставе прэзентуюцца яе сурвэты з цікавымі матывамі.

— Зіна Бакун нядаўна пахавала мужа, які загінуў падчас пажару іх дома. Сама, ратуючыся ад агню, скакала звысоку, патурбавалася і знаходзіцца ў бальніцы, — патлумачыла Яніна Плева.

На выставе прэзентуецца сурвэта Ірэны Міхаляк з цікавай вышыўкай.

— Я на агляд падрыхтавала аздобленні выкананыя кручком. Раблю іх сабе і на падарункі. На выставе можна ўбачыць многа займальных прац, — гаварыла Марыя Храсцялеўская.

Чарговы раз прывезла на агляд выкананае кручком рукадзелле Хрысцінія Грыгарук з Орлі, якая раней вучыла ў Гайнаўцы падчас майстар-класаў выконваць рукадзелле з папяровай лазы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

(працяг з Нівы № 18)

# Вярнуць прададзеную бацькаўшчыну



Праз год ад ліста ў офіс дзяржаўнаму заступніку правоў грамадзян Польскай Рэчы Паспалітай прыйшоў адказ на запыт адносна магчымасці кампенсацыі парушэння правоў былых уласнікаў да вяртання экспрапрыяваных нерухомасцей з сямідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя, якія мелі быць выкарыстаны на патрэбы пабудовы вадасховішча Сямяноўка і канала Нарва — Супрасль. Амбудсмен прасіў прабачэння за такі доўгі час адказу, што вынікае з агромнай колькасці спраў, якія ўплываюць у яго бюро. Гэта, аднак, паўплывала на тое, што некаторых спраў грамадзян ужо немагчыма «адкрунуць», таму што ў выпадку няпраўна прададзенай уласнасці былы ўласнік можа адмовіць у сапраўднасці дамовы продажу ягонай зямлі чужому купцу, набыўшаму ўчастак або ўчасткі ў «добрай веры», якога гміна на аўкцыёне запэўнівала, што зямля вольная ад нейкіх патрабаванняў ці даўгоў і з'яўляецца яе ўласнасцю. Аднаго ўстанова не выканала — неабходнасці паінфармаваць былога ўласніка ці яго спадчыннікаў наконт планаў яе збыцця і продажу за дзясяткі тысяч злотых.

Адносячыся да сутнасці скаргі, амбудсмен быў згодны з абвінавачаннем і патрабаваў тлумачэнняў у гэтай справе ад войта Нараўчанскай гміны, паколькі рэгуляцыі закона ад 21 жніўня 1997 года аб гаспадарцы нерухомасцямі (падобна як папярэднічаючага яму закона з 1985 г. аб гаспадарцы грунтамі і экспрапрыяцыі нерухомасцей) забавязваюць установу, што распараджаецца нерухомасцю, якая для публічных мэт аказалася непатрэбнай, да інфармавання былых уласнікаў аб намерах яе прызначэння на іншыя мэты — што дае магчымасць паспяхова падаць заяву на вяртанне яе на аснове артыкула 136, уст. 3 гэтага закона.

На жаль, мяркуе амбудсмен, сітуацыя папярэдняга ўласніка настолькі горш захоўваецца (у параўнанні з сітуацыяй актуальнага ўласніка), што парушэнне гэтых абавязацельстваў «адпаведным органам» не выклікае абсалютнай няважнасці магчымай дамовы продажу (ці ўстанаўлення «вечнага карыстання»), а толькі кампенсацыйнае абавязацельства (дэліктовае), як вырашыла сямёра суддзяў Галоўнага суда 15 верасня 2015 года. Тыя аргументы Галоўнага суда датычаць сутнасці паміж былым уласнікам, экспрапрыюючым суб'ектам і новым купцом і ў гэтым сэнсе маюць універсальнае значэнне, і можна іх прымяняць таксама пры ацэнцы фактычнага стану на фоне закона ад 1997 г. Затым калі дадзеная нерухомасць была паспяхова прададзена «трэцім асобам» (прыватным), становіць гэта падставу для выдання рашэння, якое адмаўляе вяртання. Амбудсмен звяртаў увагу суда на патрэбу лепшага забеспячэння інтарэсаў былых уласнікаў, больш для іх карыснага, рассуджэння аб спорных справах усіх бакоў, але ягоны погляд не быў адобраны. У некалькіх рашэннях спраў, якія разглядаліся пасля закона Галоўнага суда, суды палічылі, што калі нават факт продажу з парушэннем правоў былых уласнікаў не ўспрымаць як парушэння закона, якія *per spe* ў выніку абсалютна адмаўляюць важнасць дамовы (згодна з законам III CZP 107/14), то ў канкрэтнай фактычнай сітуацыі продаж нерухомасці трэцім асобам (якая ў іншым выпадку мусіла б быць вернута), можна трактаваць як дзеянне, намеранае да абыходу закона і парушаючае прынцыпы грамадскага сужыцця, што таксама ў выніку павінна абсалютна адмовіць важнасць дамовы продажу, хаця на іншай юрыдычнай аснове (не па артыкулах 58 цывільнага кодэкса). Тыя рашэнні адбыліся ў спецыфічных акалічнасцях: «баронячыся» перад «залівам» патэнцыяльных патрабаванняў былых уласнікаў за вяртанне нерухомасцей, якія аказаліся лішнімі для мэт экспрапрыяцыі, гміна заснавала спецыяльную суполку, у якую ўнесла спрэчныя нерухомасці ў якасці апорту. Суд палічыў, што асноўнай і зразумелай мэтай такіх прыёмаў з'яўляецца крыўда былых і новых уласнікаў, а нелаяльнасць адносна іх паражае. Суд адзначыў таксама, што «гміна выконвае публічныя заданні, з'яўляецца суб'ектам публічнага закону і як такая павінна — праз дзеянні сваіх органаў — захоўваць прынцыпы сумленнасці і лаяльнасці». А тыя прынцыпы «адмыслова не прынятыя пад увагу» (рашэнне Апеляцыйнага суда ў Катавіцах).У іншым рашэнні было палічана, што «маёмаснае перанясенне паміж гмінай і юрыдычнай асобай гэта не вывад нерухомасці па-за ўладу гміны і не азначае гэта ўнясенне нерухомасці на другасны рынак абароту нерухомасцямі». Значыць, такая трансакцыя мае іншы характар ад дамоў, пра якія гаварыў закон III CZP 107/14 і таксама падлягае адмене, значыць, яна няважная па прычыне аховы правоў былых уласнікаў і змогуць яны вярнуць сабе экспрапрыяваную маёмасць (рашэнне суда ў Бельску-Бялай з 2016 г.).

Затое карыснай для былых уласнікаў з'яўляецца юрыспрудэнцыя ў пытаннях тэрмінаў, у якіх можна старацца за вяртанне экспрапрыяваных маёмасцей. Згодна з пазіцыяй Галоўнага суда, тэрмін даўнасці патрабаванне аб кампенсацыі страт пачынае свой ход толькі з дня выдачы канчатковага рашэння, адмаўляючага вяртанне нерухомасці (гэтак было з рашэннямі польскіх судоў у 2012, 2014, 2017 гадах).

Прымаючы пад увагу тое, што магчыма, што да сённяшняга дня прынамсі некаторыя з экспрапрыяваных нерухомасцей яшчэ не прададзены, або наступіла гэта адносна нядаўна, прытым Нараўчанская гміна **ведала** аб заяўленых патрабаваннях (справы прадстаўленыя гайнаўскаму старосту), амбудсмен запрапанаваў яшчэ адзін юрыдычны прыём, які мог бы мець прымяненне ў справе вяртання зямлі былым уласнікам. Згодна арт. 59 цывільнага кодэкса «ў выпадку заключэння дагавора, якога выкананне робіць немагчымым часткова або зусім кампенсацыю патрабавання трэцяй асобы, тая асоба можа патрабаваць палічыць тую дамову неэфектыўнай у адносінах да яе, калі бакі аб яе патрабаванні ведалі або дамова была дармовая. Палічэнне аховы гэтаму патрабаванню трэцяй асобы азначае, што прыслугоўвае ёй да рэалізацыі яе так, як быццам бы тая дамова не была заключана». Ключавой умовай да скарыстання такога віду патрабавання з'яўляецца доказ прад судом **сапраўднасці** свядомасці **абодвух бакоў дамовы** (платнай) аб існуючых патрабаваннях, як і захаванне гадавога тэрміну на ўнясенне адпаведнага іску. У юрыспрудэнцыі Галоўнага суда вынікаючае з закона аб гаспадарцы нерухомасцямі (як і канстытуцыйных гарантый аховы ўласнасці і легальнай экспрапрыяцыі) патрабаванне вяртання нерухомасці трактуецца як грамадзянскі пазоў аб перадачы права ўласнасці, толькі што даходзіцца яно на адміністрацыйна-праўнай дарозе.

Але, як адзначае адразу амбудсмен, што вынік магчымай справы па артыкуле 59 ц.к. можа быць няпэўны, таму што юрыспрудэнцыя *rozchwiana* адносна асноўнага пытання, ці цывільны суд увогуле можа ацэньваць абгрунтаванасць прэтэнзіі аб кампенсацыі за вяртанне экспрапрыяванай маёмасці, калі вырашэнне аб гэтых справах перадалі на шлях адміністрацыйны. Заступніку правоў грамадзян вядомы такія рашэнні судоў, якія адмаўляюць у сваёй г.зв. кагніцыі (юрысдыкцыі) у таго тыпу справах, калі Галоўны суд адмовіў агульным судам самастойнае вырашэнне такіх спраў у сваім судовым разбіральніцтве. Трэба было строга трымацца рашэння ГС у гэтай справе з-за неадналітай ацэньванай канцэпцыі цалкавітай асобнасці адміністрацыйнага і цывільнага шляху юрыспрудэнцыі». І што тут можа зразумець звычайны ядок хлеба, калі вырашаюць яго справы такія ўстановы, якія самі разважаюць, хто павінен займацца справай яго прададзенай бацькаўшчыны?

Амбудсмен заступіўся за правы грамадзян, крытыкуючы гэтае рашэнне ГС, сцвярджаючы, што тое абмежаванне ці размежаванне (паміж судамі і адміністрацыяй) можа весці да крыўды грамадзян, парушэння іх канстытуцыйных правоў, асабліва права да судовай аховы права ўласнасці і іншых маёмасных правоў. Патрэбная пазіцыя больш гнуткая — ці ацэньванне справы судом, ці патрабаванне вяртання маёмасці адміністрацыйным шляхам можа прыслугоўваць пазоўніку. Галоўны суд адобрыў дэ-факта пазіцыю амбудсмена, сцвердзіўшы што «кампетэнцыя да акрэслення, ці экспрапрыяваны ўласнік мае патрабаванне на вяртанне нерухомасці, прыслугоўвае органу публічнай адміністрацыі тады, калі вырашае аб вяртанні, а таксам тады, калі адмаўляецца вярнуць, сцвердзіўшы, што нерухомасць усё ж была выкарыстаная на мэту экспрапрыяцыі, значыць, патрабаванне няважнае. Калі пазоўнік стараецца за вяртанне нерухомасці, суд не можа адмовіцца ад вырашэння справы, а значыць, што адзначае амбудсмен, перад накіраваннем у суд спраў па артыкуле 59 ц.к. патрэбная ўнікліваая кансультацыя з юрыстамі, якія спецыялізуюцца ў такіх справах, якія падказалі б пазоўніку ці прымяненне гэтых юрыдычных сродкаў у фактычных справах было б апраўданае. Магчымы пройгрыш будзе патрабаваць вялікіх грошай, якія, з-за складанасці такога тыпу спраў і вялікага кошту прадмета спору ў «нерухомасных» справах могуць аказацца вельмі высокімі.

Міністэрства інфраструктуры і будаўніцтва апрацавала праект навелізацыі законаў аб гаспадарцы нерухомасцямі якраз у абсягу рэгулюючым права да вяртання экспрапрыяванай маёмасці. Змены тыя маюць быць карыснымі для былых уласнікаў. Сярод праектаваных паправак ёсць такая, што патрабаванне вяртання выгасае ад дня, у якім рашэнне стала правамоцным, мінула 20 гадоў, а за той час бок не падаваў заявы, пра якую гаворка ва ўступе 3. Пераходныя правілы запланаваны так, каб даць магчымасць старацца за зварот тым былым уласнікам, якія такіх заяў яшчэ не падалі, за час 2 гадоў ад уступлення ў сілу планаваных змен. Цяпер яшчэ цяжка асудзіць, мяркуе амбудсмен, калі і ў якім кшталце тыя праекты стануць абавязваючым правам. Праект ад 22 снежня 2017 г. знаходзіцца яшчэ на этапе ўрадавых легісляцыйных прац (даступны на сайце Урадавага цэнтра легісляцыі) і не быў яшчэ накіраваны ў Сейм.

Амбудсмен адправіў ліст з патрабаваннем тлумачэнняў войту Нараўчанскай гміны, якая павінна дбаць аб інтарэсы так сваіх цяперашніх, як і былых грамадзян...

(Працяг будзе)

Міра ЛУКША



# Фанат старых гадзіннікаў

Амаль кожны цывілізаваны чалавек мае з сабою гадзіннік, але са з'яўленнем мабільнікаў людзі перасталі купляць і насіць наручныя гадзіннікі — маюць гадзіннік у тэлефоне.

Паводле даведніка *Nowa Encyklopedia Powszechna* найстарэйшым хранометрам быў гноман. У старажытных Грэцыі, Вавілоніі, Егіпце і Рыме карысталіся клепсідрамі (пясочнымі і вадзянымі). Вынаходнікам механічнага гадзінніка лічыцца кітаец Лян Лінцзань (724 г.), паводле іншых меркаванняў — французскі астраном Герберт (979 г.) — пазнейшы папа Сільвестр II. У Польшчы першыя вежавыя гадзіннікі, паказваючыя і выбіваючыя толькі гадзіны, мелі Вроцлаў (1368 г.), Гнезна (1414 г.), пазней Гданьск, Кракаў і Варшава. Кварцавы гадзіннік сканструяваў англічанін Уорэн Марысон.

Механічныя гадзіннікі працуюць, карыстаючыся гарманічным рухам маятніка з гіравым або пружынным прыводам. Менавіта такімі гадзіннікамі цікавяцца малалікія асобы.

Размова са спадаром **Андрэем ГРЫГАРУКОМ**, 1950 года нараджэння, з Орлі, адстаўным старэйшым афіцэрам паліцыі. Перад выхадам на пенсію пасля трыццаці гадоў службы займаў пасаду павятовага камендантa паліцыі ў Моньках.

**— Адкуль зацікаўленасць даўніной?**

— Калісь, бадай у 1978 годзе, аглядаў па тэлебачанні перадачу пра старыя насценныя гадзіннікі, калекцыянер прэзентаваў свае здабыткі. Гадзіннікі, апрача мерання часу і бою курантаў вылучаліся прыгажосцю выканання, кшталтам, разьбой і абшыўкай. І пасля гэтай перадачы ў мяне ўзнікла зацікаўленасць старымі гадзіннікамі.

У салоне спадара Андрэя некалькі дзясяткаў разнаітых старых гадзіннікаў. Кожны з іншым боем курантаў.

— Я пасля поўначы чую ўдары і ведаю якая гадзіна. У кожнага гадзінніка асаблівая гісторыя. Ёсць такі, які як адзіную рэч выратавалі з пажару дома.

**— Як узнікала Ваша калекцыя?**

— Ездзіў і купляў на рэчавых рынках. Былі падношаныя, але меў спецыяліста, які іх аднаўляў і пасля такі гадзіннік прэзентаваўся вельмі прыгожа, як новы.

У мяне захапленне старымі рэчамі, у іх нейкая таемнасць. Іншым людзям даспадобы новыя, сучасныя. Здаралася, што я звяртаў увагу на стары гадзіннік, а ўласнік адказваў: «То ж ён ужо стары, нічога нявартры; калі б вы мне купілі новы гадзіннік, то я вам яго аддам». Так і было.

Бывалі сітуацыі, калі людзі лічылі старыя гадзіннікі смеццем, якое трэба выкінуць. А гэта ж прыгожыя рэчы. Цяпер вытворчасць серыйная, штампавая, але калісь кожны экземпляр быў іншы, разьба таксама адрознівалася. Механізм такога гадзінніка вельмі трывалы, не псуецца і дакладна паказвае час. Большасць маіх гадзіннікаў выраблена нямецкай фірмай Густаў Бекер.

**— Ці іншыя старыя рэчы таксама Вас цікавяць?**

— Люблю старую мэблю, самавары. У салоне ў мяне вельмі старая пасудная шафа, аднаўленая, выраблена прадзедам маёй жонкі Крыстыны. Ён калісь працаваў у царскім палацы ў Белавежы. Шафа стаяла ў цешчы, падзеленая на дзве часці, адна выконвала ў кухні ролю стала. Была яна неахайна памалявана. Пасля завёз я цешчы іншую мэблю з крамы, а да тае наняў спецыяліста з Кнышына. Доўга ён пры ёй працаваў, мучыўся, чысціў каўстычнай содай, шчоткай і вадою. За работу заплаціў, даючы ў дадатак мэблесценку.

**— Вы жывяце быццам у двух светах — сучасным і даўнім...**

— Так. Чалавек мусіць цікавіцца сучаснасцю, але часам трэба настальгічна вярнуцца да мінулага. Бо гэта вельмі важная рэч. Вяртаюся ў юнацтва, калі рака Арлянка была чыстай, а зімою замярзала і можна было коўзацца на каньках. Люблю прыроду, я — грыбнік.

**— Якія ў Вас адносіны да часу?**

— Па-руску кажуць, што «часы для красы, а время по солнцу». Для мяне, калі я заведу ўсе гадзіннікі, тады маю сабе час. Кожны выбівае мне куранты.

Прыгадваецца мне адзін візіт цешчы. Начавала яна ў салоне, дзе многа гадзіннікаў. Раніцай пацікавіўся я, як спала. Адказала: «Добра, толькі што гадзіну падскоквала», — смяецца мой субяседнік. — Затое я ці жонка можам на гадзінніках спаць. Яны б'юць, а гэта нам не перашкаджае.

**— Ці такія гадзіннікі былі толькі ў багатых людзей?**

— А гэта па-рознаму. Напрыклад, прыгадваю такі расказ старэнькай бабулі. Зараз пасля Другой сусветнай вайны, калі з Германіі вярталіся рускія салдаты, былі ў іх розныя рэчы. Спыніліся ў яе на начлег. Харчоў было ў іх мала. Афіцэр запрапанаваў, каб яна ўзамен за гадзіннік пракарміла іх. Жанчына нарыхтавала гусяціну і што там мела, справілі банкет, гадзіннік пакінулі жанчыне. І расказвала, што калі няма мужа дома, а той гадзіннік цікае, б'е, то здаецца быццам побач знаходзіцца другая асоба, быццам размаўляе.

**— Ці большае калекцыя?**

— Нядаўна дакупіў адзін гадзіннік. Калісьці наведаў мяне адзін багаты чалавек і заявіў, што купіў бы ў мяне ўсе мае гадзіннікі. А я адказаў, што кожны з іх мне важны і ніводнага не магу прадаць.

У мяне за дваццаць гадзіннікаў: насценныя — вісячыя, стаячыя, камінкавыя. Найстарэйшы са злому XIX/XX стагоддзяў, а апошнія з пачатку XX стагоддзя.

Гадзіннікі гэта таемная з'ява. Нас не будзе, а яны астануцца. Яны ўжо ў кагосьці былі, магчыма, што мянялі ўладальнікаў, хтосьці імі апекаваўся, заводзіў, чысціў і, папросту, жыў з імі. Яны быццам члены сям'і. Кожны мае сваю гісторыю, свой характар...

Старыя гадзіннікі вылучаюцца сваёй сярэдзінай, там быццам душа — многа розных механізмаў. У старадаўніх гадзінніках відаць карпатлівую ручную работу, а нават індывідуальны след гадзіншчыка. Гэта ўнікальныя прадметы і варта іх захоўваць ад знішчэння.

**— Ці свет старых гадзіннікаў цікавіць маладых людзей? Ці бачыце сямейных спадкаемцаў свайго захаплення?**

— Дзеці ўжо самастойныя. Прыязджаюць, наведваюць, але маё захапленне не захапляе іх. Больш цікавяцца рэчамі, якія вырабляе жонка, напрыклад вязанымі кручком дыванікамі...

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Расказ певуна

Сустрэліся мы ў Гайнаўскім шпіталі на аддзяленні ўнутраных хвароб. І хоць тавaрыскія адносіны доўжыліся ў нас адно два дні, зараз здаецца, што знаёмства цягнулася гадамі. Яму семдзесят дзевяць год. Вясёлы жартаўнік з пасівелай стрыжкай, непаседа ды пявун. Зранку пачынаў спяваць і не сціхаў на момант. Весяліў кампаньнаў па палаце. Нават хворых падымаў на ногі. А гаворка ідзе пра Анатоля Кавальчука з Пухлаў, што непадалёк Трасцянкі Нарваўскай гміны. Вось як ён успамінае мінулае:

— Нарадзіўся я ў 1938 годзе з бацькі Васіля і матулі Вольгі. Бацька выходзіў з Мякішаў і пайшоў у приступы ў Пухлы. У пасагу дзядуля Барыс абяцаў яму палову гаспадаркі. У мяне было двух старэйшых братоў Іван ды Міхась, затым дзве сястрыцы Ганулья і Марыя. Я быў самым малодшым. Нярэнна жылося. Ураджайная зямля давала прыбытак. У нас была пара коней, чатыры каровы, некалькі кормнікаў, птушыны статак і неабходныя сельскагаспадарчыя прылады. Бацька з Іванам, старэйшым братам, займаліся цяслярскімі работамі. Лічыліся знатакамі ў сваім майстэрстве. У іх некалькі падлеткаў прывучалася сталярскаму рамяству. Бацька быў заўзятым курцом. Штогод засяваў палетка тытуню. У цяньку сушыў зялёна-карычневага колеру лісткі, затым скручваў іх у цыгарэту і зацягваўся сінім дымком. Паколькі бацька з Іванам займаліся будаўнічымі работамі ды сталяркай, дык дзядуля з малодшымі сямейнікамі апрацоўвалі гаспадарку. Неўзабаве памёр дзедка Барыс. У 1953 годзе я ажаніўся з Марыяй — дзяўчынай са сваёй вёскі. Матуля дапільнавала выканання тастамента памерлага. Абяцаны пасаг, больш дзесяці гектараў поля і палову дома запісалі мне, другую палову матулі Вользе. У нас нарадзіўся сын. Назвалі Янам. З Марыяй пражылі дваццаць гадоў. Развяліся. Пачаў я жыць з разводкай Оляй. У яе было двух дарослых сыноў — Янка і Мікалай. Жылі ў Беластоку. Жанаты. Мы з жонкаю (бясшлюбнай па сённяшні дзень) займаліся гаспадаркай. Некалькі месяцаў працаваў я ў Беластоцкім прадпрыемстве харчовай прамысловасці, затым вартаўніком у папраўчым доме, але выніклі складанасці з праездам на працу і вымушаны быў вярнуцца на гаспадарку. Па дасягненні пенсійнерскага ўзросту, у 65 гадоў падаўся на сельскагаспадарчую пенсію.

Адкуль у мяне цяга да спеву? — пытаецца. — Па бацьку пераняў. Тата захапляўся песнямі. Зранку да змроку падспеўваў пры рабоце, у хаце ў час адпачынку... Падобную звычку пpыняла сяброўка Марыся з суседняй вёскі Качалы, якая навучыла мяне песні „Раскажу вам пра край далёкі". І па сённяшні дзень памятаю. У Пухлах было шмат моладзі. Раздзяляліся на дзве кампаніі — старэйшых і малодшых. Я належаў да другой. Часта арганізавалі забавы. Наймалі музыканта Ваську Глінскага з Качалаў, які за бутэльку гарэлкі і вячэру падыгрываў да позняй ночы. Ладзіў я таварыскія адносіны з моладдзю з Градочнай. Адтуль і мая другая жонка Оля.

Трыццаць гадоў ужо разам, — канчае аповед Толік. — Так ужо застанецца... І тут жа зацягнуў нашу беларускаю „Ажаніўся стары дзед".

**Уладзімір СІДАРУК**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Фота Аляксандра Васылюка

# 3 Мая, у цэнтры Беластока

З нагоды 3 мая, на Свята канстытуцыі, у Беластоку зладзілі міжкультурны фэст. Разам з палякамі выступілі прадстаўнікі нацыянальных меншасцей: беларусы, украінцы, татары, ромы, літоўцы, расіяне. Беларускую меншасць прыгожа прадстаўлялі дзеці з танцавальнага ансамбля «Падляшскі вянок» і эстрадны гурт «Ас».

Віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мацей Жыўна, які разам з удзельнікамі, танчыў паланэз, так напісаў пра падзею на сваім фейсбуку:

— Ужо даўно я не меў стольскі радасці ад правядзення добрай і слушнай ідэі. Супольна ўсе меншасці нашага рэгіёна радасна і весела адзначылі Свята канстытуцыі 3 Мая. Было фантастычна, радасна, шмат усмешак, радасці і пачуцця, што шмат народаў будавала і будуе Рэч Паспалітую Польскую. І танчылі разнаколерны паланэз, усе, разам з публікай, калектывы ў народных строях...

Гэта была добрая перамена настрою пасля карычневага маршу...

**(гак)**



*Уладзімір Гайдук,*
*Тарнопаль, Нараўчанская гміна*

## Буслы

У кут Беларусі,
да родных хацінаў,
Імкнуцца буслы,
бы ўсім пашанціла.
Да роднае рэчкі,
лугоў і ўзлескаў,
Паляны, для шчасця,
саткаць бы пралескаў.
З надзей падарунак
матулям ды татам,
Здзяйсняюцца
мары — растуць немаўляты.
На крылах ляцела
цяпло для прадвесня,
І будзіць нас клёкат,
ды жаўранка песня.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Зайздроснік

Цар ведаў усё пра сваіх ваяроў. Ён ведаў, што адзін аднаго гатовы ўтапіць у лыжцы вады! Паклікаў цар аднаго ваяра і кажа:

— Папрасі, калі ласка, у мяне любую рэч, падарунак або павышэнне па службе. Я выканаю тваё жаданне, з адной агаворкай і ўмовай...

— Якая гэта ўмова? — загарэўся вой.

— Яна такая, — прамовіў спакойна цар, — я дам табе што хочаш, а сябра твой атрымае гэта самае ў два разы больш за цябе.

Вой пачаў разважаць і пухнуць у думках ад зайздрасці: *Калі я папрашу нешта добрае, тады гэты сябра атрымае ў два разы больш дабра за мяне! Не! Ніколі на гэта не дазволю!*

— Хачу, каб мне выкалалі адно вока, — прамовіў вой.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 19-18

**Для адных ён — садавод,**
**Для другіх ён — палявод,**
**Паспявае ўсюды быць,**
**Поле, луг і сад паліць.**
**Д....**

**(Н. Парукаў)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 20 мая 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 15-2018: крапіва. Узнагароды, каляпровыя алоўкі, выйгралі Зузя Бакер, Аляксандра Савіцкая з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Марцін Галёнка з Нарвы, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Пятакласнікі з НШ св.св Кірылы і Мяфодзія з настаўніцай Людмілай Сегень. Фота ГК



# Суперкніга, комікс і рэп!

Такой кнігі яшчэ не было на беларускай мове! Яна чытаецца як музыка рэп, бачыцца як комікс, а прамаўляе як мудрая, гуманная прыпавесць. Ужо сам загаловак шмат паведамляе: **«Суперкніга пра Біла з Болаю: Біл разумны а Бола вясёлая»**. Гэта гісторыя хлопца, які любіць сваю сястрычку з псіхічнымі абмежаваннямі і адначасова вымушаны ваяваць з асяроддзем, якое пацыху называе яе дэбілкай і дурніцай. Ён баіцца, што раптам, аднаго дня, яго любімую Болу зраняць, прыніжаць. Яна не гаворыць, не зможа даць адпор, абараніцца.

Таму Біл вядзе балючы маналог:

*А што здарыцца раптам, калі зразумее дражнілкі?*
*І заплача? І пойдзе дадому з мянушкай дэбілкі?*
*КАЛІ-НЕБУДЗЬ, калі гэты момант настане,*
*Мы не будзем яе дражніць -*
*Я дакладна, няма пытання!*

*Ды ў сярэдзіне красавіка*
*Біл і сам абразы пачуў*
*ад найлепшага сябрука:*
*Мама, ён кажа:*
*«Твая сяструха — дурная...*

З Болай не проста дамовіцца, яна жыве ў сваім свеце. Раз яна кіпіць радасцю і шчасцем, іншы раз успыхвае агрэсіяй, даводзіць да неўтаймаванай злосці. Калі яна разбурае замак, які Біл марудна і доўга будаваў, брат спачатку хоча адпомсціць: *А, можа, ёй даць кухталя?!*




*І ляльку зламаць ёй пасля?!*
*Але ён мудры і добры Брат,*
*у рэшце рэшт, пасля бунту,*
*ён сам даходзіць да вываду*
*— не біць жа такіх малых!*

У «Супер кнізе пра Біла і Болу: Біл разумны а Бола вясёлая» паказана і шчасце, якое нясе малодшая сястра, і гора, і боль. Кніга пачынаецца надта аптымістычна. Біл, які стаў старэйшым братам, пачуваецца найшчаслівейшым ва ўсім свеце. Але час ідзе і ўсе разумеюць, што з малодшай сястрычкай нешта не так.

Біл увесь час змагаецца за тое, каб не выкінуць любімай сястрычкі са свайго сэрца. І гэта яму ўдаецца. А як гэта яму ўдаецца? Адказ знойдзеце ў цудоўнай кніжцы шведскай пісьменніцы Гунілы Бэргстрэм. Гэта таксама добры ўрок гуманнасці для дарослых і малых, якія не заўсёды разумеюць праблемы людзей з псіхічнымі і фізічнымі абмежаваннямі.

Кніжка ў перакладзе Андрэя Хадановіча (падрадкоўны пераклад належыць Алесі Башарымавай і Надзеі Кандрусевіч) выдадзена ў 2017 годзе выдавецтвам «Кнігазбор».

Увага! Яе можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

(гак)

Васіль Зуёнак

## Такой парой

Такой парой,
Калі, як цень снягоў,
На баравінах
Ландыш выпадае,
Калі вясна
Чакае і гукае,
Калі зязюля
Вечнасць абяцае
І дрозд
Ад песні
Галаву губляе, —
Мы ў лес пайшлі —
У май, нібыта ў рай...
Пайшлі,
А ці вярнуліся —
Не знаю.

## Польска-беларуская крыжаванка № 19-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15-2018:**

Спор, Яша, пята, адзінарог, акт, Коўна, дар, гіра, мак, ля, хлус, парог. Нюх, шапка, сад, заўгас, пікнік, янтар, Ала, парад, яр, ах, рог, ранг.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Іаанна Ніціюк** з бельскай «тройкі», **Зоя Семянюк, Андрэй Бонда, Міхал Савіцкі** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Оля Хіліманюк, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Марыюш Радзецкі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Якуб Варанчук, Дам'ян Аўярчук, Давід Сурэль** з Арэшкава. Віншуем!



Сяргей ЧЫГРЫН

# Жыў у Гудзевічах настаўнік з Беласточчыны






З Алесем Белакозам я быў знаёмы шмат гадоў, сустракаўся не раз у вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна, а таксама ў Мастах, у Лунна, у Мінску. У Гудзевічах ён стварыў унікальны школьны музей, які з 1990 года набыў статус дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея. А сам Алесь Мікалаевіч Белакоз у 1987 годзе стаў заслужаным работнікам культуры Беларусі.

У 2012 годзе слонімскія настаўнікі наведалі Гудзевіцкі школьны музей. Пасля падарожжа ў Гудзевічы да мяне завітаў слонімскі настаўнік-пенсіянер Мікалай Іванавіч Ракевіч і прывёз некалькі тэчак з рознымі паперамі, надрукаванымі на пішучай машынцы і напісанымі ад рукі. „Гэта табе перадаў Белакоз з Гудзевіч і прасіў, каб ты дапамог яму выдаць кнігу пра Гудзевічы і выбраць тут лепшае для кнігі, бо толькі табе ён давярае, а больш нікому", — сказаў спадар Ракевіч і паклаў мне на стол некалькі вялікіх тэчак з паперамі.

Я ўзяўся за галаву, бо працы там было непачаты край. Але адмовіць Алесю Мікалаевічу не мог. Таму пачаў працаваць. Некалькі месяцаў я рыхтаваў кнігу Алеся Белакоза да друку. Уважліва перачытаў усе матэрыялы, якія ён перадаў. Артыкулы былі розныя, але цікавыя. У іх аўтар распавядаў, як ён даследаваў сваю мясцовасць: гісторыю вёскі Гудзевічы, Прачысценскую царкву, глыжавік-маналіт, школу. На старых, пажоўклых ад часу паперах, захоўваўся тэкст і пра музей, сялянскую хату канца XVIII стагоддзя, пра паўстанне 1863-1864 гадоў, пра калекцыі музея, а таксама пра людзей, чый лёс быў звязаны са стварэннем музея, дапамогай яму, а гэта Уладзімір Караткевіч, Юлія Бібіла, Саша Рыжко, які перапісваўся з братам Якуба Коласа Юзікам, і многімі іншымі. Кніга атрымалася добрая, яна налічвала 200 старонак. І ў канцы 2012 года кніга Алеся Белакоза „Музей у Гудзевічах" з маёй прадмовай выйшла з друку ў мінскім выдавецтве „Кнігазбор".

За выданне разлічыўся адзін з сыноў Алеся Мікалаевіча. Я кнігу прывёз у Слонім, а са Слоніма ўвесь наклад выдання забралі ў Гудзевічы. Я адразу патэлефанаваў Алесю Мікалаевічу, ён падзякаваў і сказаў, што кніга яму спадабалася.

Сапраўды, кніга „Музей у Гудзевічах" — доказ таго, як няпроста і нялёгка ствараліся падобныя беларускія музеі. Колькі папахадзіў, паабіваў парогаў Алесь Мікалаевіч дзеля свайго музея. Яму давалі вымовы, наладжвалі ў школе праверкі, абзывалі нацыяналістам, цягалі ў КДБ, а ён рабіў сваю справу, рабіў упарта і натхнёна, спакойна і... заўсёды. Не ўсё задуманае ім спраўдзілася, адбылося, захавалася для нашчадкаў. Але ён вытрымаў, перажыў, адолеў. Гэта кніга — пакінутая нам жменька праўдзівых успамінаў мудрага настаўніка з Гудзевічаў. Каб мы жылі, каб жыла ў свеце Беларусь, каб жыла наша мова, каб захавалася наша багатая спадчына.

Не так часта я ліставаўся з Алесем Мікалаевічам Белакозам, але зрэдчас мы пісалі адзін аднаму лісты. Некаторыя з іх прапаную тыднёвіку „Ніва". Тым больш, што Алесь Белакоз сваёй радзімай заўсёды лічыў Беласточчыну. Пра гэта ён піша і ў сваіх лістах.

## Лісты Алеся Белакоза

28 верасня 1998 года

**Шаноўны і дарагі спадар Чыгрын!**

Шчыра дзякую за віншаванне. Вельмі спадабаліся нам паштоўкі з фатаграфіямі Ларысы Геніюш[1]. Вы так многа зрабілі для памяці пра Ларысу Антонаўну, што мы проста не ведаем, як Вам аддзякаваць. Ваш патрыятызм, сяброўская вернасць абавязваюць кожнага з нас актывізаваць сваю дзейнасць, накіраваную на паратунак нашай роднай Беларусі. Каб хоць 10% беларусаў былі такімі патрыятычнымі, як Вы, то не толькі цыганы, але нават больш магутныя акупанты нам не былі б страшныя.

**Са шчырай пашанай і ўдзячнасцю Алесь Белакоз.**

* * *

25 жніўня 2010 года

**Дарагі спадар Чыгрын!**

Вельмі дзякую за Вашу кнігу „З Беластоцкай зямлі". Сам я лічу сябе родам з Беласточчыны. Таму Вашу кнігу праглынуў тут жа. Асабліва мяне зацікавілі Валошын[2] і Прытыцкі[3] — мае сваякі.

Высылаю Вам матэрыялы пра М. Арла[4]. Іх сабралі вучні Гудзевіцкай школы. Можа Вам удасца дзесьці надрукаваць паэму М. Арла „Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?[5]".

Пісаць шмат не магу. Буду ўжо друкаваць на камп'ютары. Дасылаю яшчэ 12 лістоў рознага тэксту. Можа Вам спатрэбяцца.

**Алесь Белакоз.**

* * *

21 траўня 2012 года

**Паважаны і дарагі спадар Чыгрын!**

Шчыра дзякую за прыемны ліст і за каштоўную Вашу кнігу „Па слядах Купалы і Коласа". Яна дае многа не толькі настаўнікам і студэнтам, але і даследчыкам. Вашы кнігі мяне зачароўваюць, асабліва звесткі пра маю родную Беласточчыну. Мае бацькі пераехалі ў вёску Ляшкі Беластоцкага павета 6 ліпеня 1928 года. А нарадзіўся я ў Ляшках 11 верасня 1928 года. Амаль сем месяцаў я жыў у Яраўлянах, там спрадвеку, а з XIII стагоддзя напэўна, жылі мае прашчуры. Мова Яраўлянаў мне даражэйшая і прыгажэйшая за мясцовую. Я, напрыклад, кажу: „Дзякуй Богаві, гобруць" і іншыя словы, характэрныя для Яраўлянаў. І ў нас ёсць прыстаўное „г". Мы кажам: гостры, гараць, а не араць і г.д. Пішу Яраўляны, а не Юраўляны. Справа ў тым, што ў 1939 годзе там, каля вёскі, бачыў яры. Простыя польскі пісар, каб паздзекавацца з селяніна ў XVI стагоддзі даваў сялянам прозвішчы Сярун, Сцака, Пенес і іншыя непрыстойнасці. А чаму б не абразіць усю вёску, хоць юр не мае дачынення да вёскі, але чужынцы навязалі такое гучанне.

Зайздрошчу патрыятызму слонімскіх дзеячаў. У нас у 1925-1926 гадах таксама было шмат патрыётаў. Некаторых палякі пасадзілі ў турмы, іншыя сталі сябрамі КПЗБ. Мушу прызнацца, што патрыётамі яны заставаліся, здрадзілі толькі стукачы, сярод тагачасных камуністаў іх было мала. Вядома камуністам-патрыётам яны пасадаў не давалі, нават аднаго пасадзілі ў турму, але з часам іх усіх звезлі б у Курапаты.

Шчыра дзякую, што хочаце напісаць і пра майго тату, бо ён быў прадстаўніком бяднейшага сялянства і заставаўся ім пры ўсіх уладах, хоць бальшавікі лічылі яго амерыканцам, ворагам, кулаком. Праўда, тры гектары зямлі і адна карова не давалі падставы называць яго кулаком, але бальшавікоў ён не любіў усё жыццё. Хацелася б мець чарнавік пра Белакоза Мікалая[6], які Вы напішаце. Калі будуць пытанні, дасылайце. Высылаю Вам пяць сваіх згадак пра тату.

**З пашанай і ўдзячнасцю Алесь Белакоз.**

* * *

25 чэрвеня 2012 года

**Дарагі спадар Чыгрын!**

Шчыра дзякую за ліст. На жаль, матэрыялаў пра Кандрата Лейку[7] не маю. Пішыце, калі ласка, як Ваша здароўе. Я пераканаўся, што Вы шчыры беларускі патрыёт. Хацелася б, каб хоць гадоў з 40 яшчэ пражылі. А дзеля гэтага падходзьце крытычна да нашай медыцыны, менш ужывайце хімічных прэпаратаў, большую ўвагу звяртайце на народную медыцыну.

Я вельмі даўно расчараваўся ў дактарах і лячуся сам. Хоць мне анколагі ў Гродне абяцалі не больш за год жыцця, а ў анкалагічным інстытуце ў Бараўлянах толькі два месяцы, а я без іхняй дапамогі жыву ўжо 26 гадоў, маючы рак галаўнога мозга, кішэчніка, пячонкі і іншых органаў. Цешуся, што не пагадзіўся на розныя апраменьванні.

Ці п'яце крамянёвую ваду, бо калі не, то тэрмінова пачынайце.

Не пішыце, калі ласка, чырвоным чарнілам, бо я маю дрэнны зрок.

**З пашанай і ўдзячнасцю Алесь Белакоз.**

* * *

5 ліпеня 2012 года

**Спадар Чыгрын, добры дзень!**

Дзякую за віншаванне. Пра Міхася Петрыкевіча[8] матэрыялаў не маем у музеі. Але цяпер там чужы чалавек.

Я займаюся гаспадарчымі справамі: перакрыў шыферам хлеў, збіраюся перакрываць хату. Імкнуся, каб ад пенсіі не заставалася ні капейкі, бо надта імклівая абясцэньваюцца грошы. Тлумачце, калі ласка, людзям, што і даляры, і еўра за адзін год таннеюць у два з лішнім разы. Цешуся, што нічога не маю.

У мяне часта бываюць людзі, то сумаваць няма часу. Рыхтую да друку артыкулы „Гісторыя Гудзевічаў", „Як выхоўваць патрыётаў", „Творчасць і збіральніцкая дзейнасць гудзевіцкіх вучняў", „Гісторыя роду Белакозаў і Петрашкевічаў" і іншыя. Цешуся, што працы хапае, бо гэта і ёсць жыццё.

**З удзячнасцю Алесь Белакоз.**

* * *

23 лістапада 2012 года

Паважаны і дарагі спадар Чыгрын!

Высылаю Вам свой артыкул „Белакоз Вера Мікалаеўна[9]". Дзякую, што прапанавалі мне сабраць усе мае матэрыялы ў адну кнігу. Шкада, што цяпер, на 85-м годзе жыцця, галава не тая.

Веру Белакоз я хацеў паказаць добрай, разумнай, прыгожай беларускай патрыёткай, але мне гэтага зрабіць не ўдалося: многа выветрылася з гадамі. Мае ўспаміны пра Веру можаце выкарыстоўваць, як Вам захочацца.

Высылаю Вам яшчэ допіс пра камунізм у вёсцы Ганулькі. Каб Сталін[10] пажыў яшчэ гадоў з 10, то ён зрабіў бы камунізм у СССР, і гэтым давёў бы краіну да поўнага развалу.

Дзякую за ўсё, што робіце для мяне і для беларускай літаратуры.

**Алесь Белакоз.**

1 Ларыса Геніюш (1910-1983) — беларуская паэтка, публіцыстка, грамадская дзяячка.
2 Павел Валошын (1891-1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст.
3 Сяргей Прытыцкі (1913-1971) — палітычны дзеяч Заходняй Беларусі і БССР, лідар КПЗБ.
4 М.Арол (Сцяпан Пятэльскі, 1890-1917) — беларускі пісьменнік, публіцыст.
5 Паэма была надрукавана ў часопісе „Лідскі Летапісец", № 54, 2012.
6 Маецца на ўвазе бацька Алеся Белакоза Мікалай Белакоз.
7 Кандрат Лейка (1860-1921) — беларускі паэт, празаік, драматург, педагог.
8 Міхась Петрыкевіч (1913-1999) — беларускі краязнавец, педагог, музеязнавец.
9 Маецца на ўвазе родная сястра Алеся Белакоза.
10 Іосіф Сталін (1878-1953) — савецкі дзяржаўны, палітычны і ваенны дзеяч.

# Памяць пра Вялікае Княства Літоўскае



Злева направа: Данель Грынберг, Кшыштаф Бухоўскі, Алег Латышонак, Генадзь Сагановіч і Русціс Камунтавічус

26 красавіка ў новай сядзібе беластоцкага Дзяржаўнага архіва адбыліся дэбаты на тэму памяці пра Вялікае Княства Літоўскае ў Польшчы, Літве і Беларусі. Публіку дэбатаў склалі вучні сярэдніх школ Беластока. Навізной было месца правядзення мерапрыемства — у новым будынку Дзяржаўнага архіва, што па вуліцы Міцкевіча. Дырэктар Архіва Марэк Кетлінскі коратка ахарактарызаваў новую сядзібу сваёй установы. Старую сядзібу, што была ў Рынку Касцюшкі, Архіў пакіне ў кастрычніку; афіцыйнае адкрыццё новай плануецца на 20 чэрвеня г.г. Новая ўстанова атрымае навейшае тэхнічнае абсталяванне. Прамоўца падкрэсліў, што новая сядзіба мае адрас па вуліцы Міцкевіча, у Беластоку, якога частка знаходзілася ў межах ВКЛ, што сімвалічна асацыюецца з тэмай дэбатаў. Будынак быў узведзены ў 2016-2017 гадах, а з лютага г.г. ён ужо ў веданні Архіва. 3600 квадратных метраў плошчы на трох паверхах, дзе ўласна архіўныя і рабочыя адсек, усебакова забяспечаны ад розных небяспек...

У дэбатах прынялі ўдзел прафесары Генадзь Сагановіч з Мінска, Русціс Камунтавічус з Коўна ды Данель Грынберг, Кшыштаф Бухоўскі і Алег Латышонак з Беластока. Алег Латышонак заўважыў, што Вялікага Княства Літоўскага ўжо няма, але ёсць яго спадчыннікі: Беларусь, Літва, Польшча, ды ў нейкай ступені Украіна і... Ізраіль. Апошняя дзяржава названа невыпадкова, бо шматлікія яўрэйскія грамадскія плыні зараджаліся ў нашай частцы свету, у тым і ў тэрытарыяльных межах ВКЛ, таму і Ізраіль таксама выпадае ўключыць у лік спадчыннікаў Княства. Несумненна, найбольшую долю спадчыны маюць Літва і Беларусь, але і ў Польшчы склалася традыцыя лічыць цэласць ВКЛ польскай спадчынай, хаця Вільня і Гародня знаходзіліся ў польскіх межах толькі цягам дваццаці міжваенных гадоў.

Прафесар Камунтавічус адзначыў, што польскай мове навучыўся саматужна ад кантактаў з палякамі, якіх, як прызнаўся, ніколі не любіў, таму што палякі ўсё намагаліся забраць у літоўцаў іхнюю гісторыю, іхнюю тоеснасць, асіміляваць. Прамоўца звярнуў увагу на тое, як суседнія народы глядзяць на сваё мінулае — у нашых дзяржавах не перакладаюцца падручнікі па гісторыі, якія сабе пішуць суседзі. У Літве не перакладаюць, а вось вельмі падобна справа маецца і ў Польшчы. Тут перакладзена гісторыя Літвы аўтарства Алфрэдаса Бумблаўскаса, які ў Літве лічыцца паланафілам і маргінальным гісторыкам; ягоныя тэксты, паводле літоўскіх гісторыкаў, не маюць нічога супольнага з літоўскім бачаннем гісторыі. Гэта для палякаў, каб яны думалі, што літоўцы захапляюцца Польшчай, але што яны сапраўды думаюць пра палякаў, палякам не перакладаецца. У літоўскіх падручніках па гісторыі Літвы няма таго, што піша Бумблаўскас, а сапраўдны галоўны наратыў літоўскай гісторыі напісаў у міжваенны перыяд Адольфас Шапока; палякі лічацца там адным з важнейшых ворагаў Літвы. Гісторык мае некаторы клопат з пісаннем гісторыі, бо з аднаго боку патрабуецца ад яго аб'ектыўнасці, а з другога — патрыятызму, але гэта з лагічнага пункту гледжання з'яўляецца нонсэнсам. Таму ў выніку маем розныя пункты гледжання на супольнае мінулае. І карысна было б ведаць гэтыя суседскія аспекты.

Прафесар Сагановіч сказаў, што ў Беларусі няма адзінага гістарычнага наратыву наконт уласнай гісторыі. Памяць пра ВКЛ складаецца з дзвюх галоўных плыняў: афіцыйная памяць прарасійская і еўрафільная нацыянальная памяць. Афіцыйныя чыннікі намагаліся паказваць ВКЛ у адмоўным святле дзеля будавання супольнасці з Расіяй; апазіцыйны ж бок намагаўся трымацца далей ад Расіі, а бліжэй еўрапейскага цывілізацыйнага абшару. Паміж гэтымі поглядамі ўтварылася прорва і ў 1990-х гадах амаль немагчыма было меркаваць пра прымірэнне памяж імі. Аднак апошнім часам можна заўважыць ластаўкі змен, адзнакі збліжэння дзвюх згаданых пазіцый. Можна гэта заўважаць з 2009 года, калі ўлада адзначыла ўгодкі Грунвальдскай бітвы, аднак найбольш гэтая змена праявілася ў сувязі з драматычнымі падзеямі на Украіне. Першым прыкладам было ўзвядзенне помніка князю Альгерду ў Віцебску; дагэтуль ніводзін з князёў ВКЛ не быў так уганараваны на тэрыторыі Беларусі. Таксама з'явілася ініцыятыва ўганаравання князёў Міндоўга ў Навагрудку і Гедзіміна ў Лідзе, а гэтага без ведама Аляксандра Лукашэнкі не магло б быць. У мінулым годзе выказаў ён думку, што ВКЛ было важным этапам у станаўленні беларускай дзяржаўнасці. Аднак у грамадстве надалей трымаецца гістарычны раскол. Бо ж моцна трымаецца канцэпцыя вытокаў Беларусі з Кіеўскай Русі, канцэпцыя адзінства з Расіяй, якая мае падтрымку Масквы.

Прафесар Грынберг засцярог, што з Ізраілем можна звязваць толькі нейкую частку спадчыны ВКЛ, таму што цяперашняя ізраільская дзяржава збудавана на шматлікіх іншых падвалінах, асабліва сіянізму, абмяжоўваючы ідышызм, тыя вуткі яўрэйскай культуры, якія найбуйней працвіталі ў Вільні. У ВКЛ працвіталі хедэры, ешывы, кнігарні, друкарні, тыя лямпачкі яўрэйскай асветы ў невялічкіх правінцыяльных цэнтрах. Аднак тыя цэнтры пакінулі свой след у гісторыі, бо там жа нараджаліся людзі думкі, якія пакінулі свой след у яўрэйскай культуры. Яўрэйская культура развівалася тут такімі ж шляхамі, як і суседнія культуры. Ха-Тыква, сучасны гімн Ізраіля, умяшчае матывы з Двожака і Сметаны, жыдоўскія нацыяналістычныя тэксты сугучныя польскай рамантычнай паэзіі.

Прафесар Бухоўскі сказаў, што ў Польшчы г.зв. Крэсы лічацца польскай гістарычнай спадчынай. Літоўскасць у польскай тоеснасці мае міфічны, эмацыянальны характар. Палякі глядзяць на Літву самалюбна, не зважаючы на яе шматкультурны характар. Сам тэрмін „Крэсы" мае XIX-вечны рамантычны радавод, прыдуманы тады і засвоены польскай культурай, што ствярае ўражанне, што „Крэсы" былі заўсёды, а гэта ж не так. І родзіцца пытанне: ці той польскі погляд на Крэсы не з'яўляецца „заслугай" апошніх ста пяцідзесяці гадоў? Так моцна палякі палюбілі той рэгіён, што немагчыма зараз ад яго адмовіцца. А калі верыць даследчыкам, то польскасць на той тэрыторыі была павярхоўная, абмежаваная адно да тонкай праслойкі.

Прафесар Алег Латышонак выказаў здзіўленне помнікам Альгерду ў Віцебску; столькі ж знакамітым беларусам няма помнікаў, а тут раптам Альгерд. Разгадку пачуў ад аднаго з мінскіх гісторыкаў: справа ў тым, каб паказаць Расіі, што Беларусь мела сваю ідэю інтэгравання з Расіяй, а гэтакае тлумачэнне мае падмацоўваць летуценных амбіцыі Лукашэнкі ўсё ж такі ўхапіцца за кіраванне постсавецкай тэрыторыяй. Калі ж гаварыць пра аднаўленне даўніх замкаў на тэрыторыі Беларусі, то праўдзівым здаецца быць анекдот, што адзін з міністраў культуры РБ хацеў стварыць праграму аднаўлення соткі гістарычных замкаў. На такую задуму расійскі пасол у Мінску пайшоў да Лукашэнкі, закідаючы яму ахвоту зрабіць у Беларусі Еўропу; апальны міністр культуры апынуўся ў Парыжы на пасадзе амбасадара... А найбольш тыя замкі падабаюцца расійскім турыстам, якія, захапляючыся тымі замкамі, адчуваюць сябе быццам сапраўды былі ў Еўропе, дзе яшчэ і гаворыцца па-руску. Аднойчы спадару Латышонку пазваніла нейкая журналістка, патрабуючы, каб ён выказаў сваё меркаванне наконт аднаўлення беларусамі „польскіх" замкаў у Міры і Нясвіжы ды прысабечвання беларусамі польскай гісторыі. Адказ быў такі, што ўласнікам нясвіжскага замка быў літвін, будаўніком італьянец, за грошы мясцовага насельніцтва і ў сапраўднасці ў Нясвіжы няма нічога польскага; апытальніца была невераготна ашарашана... Пра Ізраіль напісаў Тымаці Снайдэр, што ён з улоння ВКЛ; сам Ізраіль не спасылаецца на памяць ВКЛ.

Генадзь Сагановіч паведаміў, што ініцыятарамі ўзвядзення помнікаў у беларускіх гарадах з'яўляюцца тамашнія эліты, праяўляючы такім чынам мясцовы патрыятызм. У Віцебску было так, што супраць ушанавання Альгерда былі тамашнія царкоўнікі і прыхільнікі заходнерусізму. Усе звярталіся да Лукашэнкі, ён доўга не прымаў рашэння і толькі пасля падзей на Украіне даў згоду.

Спрэчнай аказваецца постаць вялікага князя Вітаўта, які ў рэйтынгу беларускіх гістарычных постацей займае бадай другое месца за Скарынам. Аднак, як заўважыў прафесар Сагановіч, такія постаці з'яўляюцца важнымі чыннікамі стварэння гістарычнага нацыянальнага міфа.

З залы было пытанне, як ставіцца да польскай канцэпцыі Міжмор'я. У адказ Генадзь Сагановіч адказаў, што ў Беларусі гэтае пытанне пры сённяшняй уладзе не ставіцца. Затое Русціс Каментавічус адказаў, што Літва арыентуецца на Захад і таксама не разглядае такой канцэпцыі. Гэта звязана і з літоўскай гістарычнай памяццю, з менталітэтам, з супастаўленнем Польшчы і Літвы, з апаскай перад польскім захопніцтвам. У Літве няма ніводнай кнігі па польскай гісторыі, апрача кнігі аўтарства Нормана Дэйвіса; няма таксама кніг па беларускай гісторыі. Літоўцы ніколі прыхільна не глядзелі на палякаў, таму што з польскага боку адчуваўся наступ на літоўскасць, адчувалася пагроза ад палякаў для літоўскай культуры і дзяржаўнасці. Пагроза паланізацыі адчувалася ў літоўцаў значна мацней, чым, напрыклад, пагроза германізацыі. Вось Ягайла разглядаецца ў Літве як чорны характар, бадай толькі адна вуліца ў цэлай дзяржаве названа ягоным імем. Уніі Польшчы з Літвой лічацца ў Літве катастрофамі для літоўскай дзяржавы. А Вітаўта шануецца там таму, што ён змагаўся супраць Ягайлы.

Алег Латышонак заўважыў, што склаўся ў палякаў і беларусаў міф, быццам ВКЛ бараніла русінаў перад крыжаносцамі і татарамі. А было акурат наадварот: гэта татары баранілі русінаў перад літоўцамі і палякамі. Пакуль трымалася Арда, датуль трымалася і Русь, а калі ў выніку, бадай, чумы, Залатая Арда заламалася, тады ўся Русь папала пад літоўскае панаванне...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Да 60-годдзя „Белавежы"

# Плыў на хвалях свайго часу

Вельмі часта прыгадваю выдатнага беларускага паэта, публіцыста, гумарыста і проста шчырага чалавека Міхася Шаховіча (1953-2000). Сёлета ў лістападзе яму споўнілася б толькі 65 гадоў, а яго ўжо 18 гадоў няма сярод нас. І калі прыгадваю Міхася, на памяць цытую яго выдатныя радкі:

Плыву на хвалях часу<br>
І сам не ведаю, не знаю —<br>
Ці я ад нечага ўцякаю,<br>
Ці, можа, нешта даганяю?



Ён, сапраўды, плыў на хвалях свайго часу. Не ведаю ад каго і ад чаго ён уцякаў, але і дагнаць нікога і нічога не паспеў, ды і не планаваў. Міхась плыў па цячэнні жыцця і быў таленавітым чалавекам, ён пісаў па-беларуску і жыў беларускасцю. Таму я памыляюся, калі кажу, што Міхась Шаховіч нікога і нічога не дагнаў, ён спаткаў у жыцці ЛІТАРАТУРУ, якая сама шчыра ўзяла яго ў творчы палон. Пры жыцці ён напісаў і выдаў цудоўныя кнігі сваіх твораў „Прамінанне" (1978), „Святая ноч" (1979), „Напевы" (1987), „Кліч" (1993), „Пад сузор'ямі" (1998), „Вада ў рэшаце" (1983), „Рапсодыя"(1993) і іншыя.

З Міхасём Шаховічам я пазнаёміўся даўно. Шмат разоў з ім сустракаўся ў Беластоку, у рэдакцыі тыднёвіка „Ніва", нават рабіў з ім інтэрв'ю, ліставаўся. Праглядаючы ўласны хатні архіў, трапіў на адзін ліст Міхася Шаховіча. Ён быў напісаны ажно 16 студзеня 1984 года. Тады я вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Мы ліставаліся, але іншыя пісьмы дзесьці згубіліся. Захаваўся адзін гэты ліст. Міхась Шаховіч мне пісаў: „Паважаны Сяргей! Прабачце за такое доўгае маўчанне, але ўсяму гэтаму вінаваты стан майго здароўя. Можа і не так было ўсё страшна, але трэба было зрабіць кантрольныя даследаванні. У сувязі з гэтым неабходна было легчы ў шпіталь. Усё скончылася шчасліва. Падазрэнні аказаліся беспадстаўнымі.

Дарагі Сяргей! Вашы вершы былі надрукаваны яшчэ ў мінулым годзе ў красавіцкім нумары „Нівы". Відаць, гэтая „Ніва" да Вас не дайшла. Я яшчэ раз упэўніваўся ў рэдактара і ён амаль бажыўся, што „Ніву" выслалі. Значыць, выслалі! Сам знаю, што значыць не бачыць аўтару сваіх надрукаваных вершаў. Раздабыў я яшчэ некалькі нумароў і на сам пачатак пашлю дзве выразкі. Вышлю заказным. Калі дойдуць — адпішыце! Калі не адпішаце, значыць, не дайшлі і тады пастараюся некім перадаць.

Паважаны Сярожа! У мяне да Вас просьба. Ніяк не магу раздабыць альманах „Дзень паэзіі-83". Калі не надта ж ушчупліць гэта Ваш студэнцкі бюджэт, то прышліце мне, калі ласка, адзін экземпляр. З вялікай пашанай да Вас — Міхась Шаховіч".

Атрымаўшы гэты ліст, я хуценька пабег у адну з кнігарняў Мінска і купіў Міхасю Шаховічу беларускі штогоднік „Дзень паэзіі-83" (цяпер, на жаль, ён ужо не выдаецца). І адразу яго выслаў у Беласток. Невыпадкова Міхась прасіў выслаць яму гэты зборнік. На старонках 237-240 былі апублікаваны яго пяць вершаў з невялікай прадмовай Уладзіміра Паўлава. Гэта быў дэбют Міхася Шаховіча на старонках беларускага штогодніка. Ды і надрукавацца тады ў ім было няпроста, бо для кнігі адбіраліся самыя лепшыя паэтычныя творы беларускіх аўтараў.

У прадмове да вершаў Уладзімір Паўлаў шчыра вітаў Міхася Шаховіча з надрукаваннем у „Дні паэзіі" і жадаў яму новых творчых узлётаў, адзначыўшы пры гэтым, што верш Міхася Шаховіча „бярэ пачатак з роднай зямлі, сялянскага побыту, матчынай песні і спрабуе сягнуць да касмічнай прасторы, а найбольш — да асэнсавання асобы чалавека на Зямлі, яго ролі ў нашым неспакойным свеце".

„Дзень паэзіі-83" надрукаваў тады вершы Міхася Шаховіча „Туды", „Дарогі", „Эх, каб плакаць я мог...", „Калі даваць..." і „Ноч гойна спраўляла хаўтуры на сонцы...". Вершы даволі смелыя, адкрытыя, шчырыя і філасофскія. Прывяду некалькі радкоў з розных твораў:

***

Дык, значыць, канца не бывае ў прыродзе...<br>
Ў прыродзе ёсць толькі пачатак.

***

Ні смяяцца<br>
Ні даваць<br>
Ні плакаць<br>
Ні цалаваць<br>
Не ўмелі мы<br>
І не ўмеем.

***

Каб во толькі каціліся слёзы ў мяне,<br>
Я заплакаў бы сам над сабою.

Міхась Шаховіч ніколі не плакаў „сам над сабою". Ён жыў і пісаў вершы, журналісцкія артыкулы, гумарэскі. Жыў і пісаў, як умеў. Час ягоны прайшоў, але літаратурная творчасць Міхася засталася нам у спадчыну.

Сяргей ЧЫГРЫН




# http://elen-carot.by

Мода на вышытую кашулю ўзнікла пасля ўкраінскага Еўрамайдана 2013-2014 гадоў як своеасаблівая рэакцыя ўзмацнення нацыянальнай свядомасці на жаданне імперскіх колаў Расіі не даць выйсці Украіне з абшару іх уплыву. Модніцкія павевы дасягнулі Беларусі, дзе былі падхопленыя спачатку нацыянальна свядомай моладдзю і па-беларуску „вышытая кашуля" стала называцца ўкраінскім словам „вышыванка". Праз непрацяглы час яе можна было ўжо ўбачыць не толькі на актывістах адраджэнскага руху, але і на лукашэнкаўскіх чыноўніках. Зразумела, апранаю яны вышыванкі не ад вялікай любові да Беларусі і ўсяго беларускага, а ад перапуду з-за магчымых надзвычай моцных абдымкаў расійскіх братоў, здольных абцяпаць немалы кавалак „дрэнна ляжачай" тэрыторыі ці з дробнага непаразумення распаліць у суседняй краіне сапраўдную вайну, як гэта сталася з Крымам і Данбасам.

Праўда, мода на вышыванку, па ўсім відаць, прайшла свой апагей. Яе, канешне, дагэтуль можна сустрэць на тым ці іншым чалавеку ў Беларусі, але яна ўжо не выклікае нейкага зацікаўлення да сябе, як тое было годам-двума раней. Гэта натуральны працэс, бо мода ёсць мода, і яна не можа цягнуцца вечна. Але пакуль яна не сышла цалкам, на вырабе вышытага нацыянальным рысункам адзення яшчэ можна зарабіць неблагія грошы. Прыкладам гэтага з'яўляецца майстэрня Elen Carotte, сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://elen-carot.by**. „Праект займаецца развіццём і адаптацыяй нацыянальнага адзення да сучасных умоў, распрацоўвае і прапагандуе этна-дзелавы стыль, стварае вопратку з беларускай адметнасцю", — распавядаецца на сайце, дзе сабраныя беларускамоўныя бізнесы „Свае".

У сваю чаргу на сайце майстэрні ў рубрыцы „Пра нас" адзначаецца, што яе мэта — папулярызацыя беларускага нацыянальнага адзення. „Праект засноўваецца на вывучэнні традыцыйнага строю, захаванні яго асноўных рыс, але імкнецца ўводзіць нацыянальную вопратку ў паўсядзённае жыццё. Адным з прыярытэтаў з'яўляецца пашырэнне культуры народнага строю і адаптацыя аграрнага стылю адзення да ўмоў урбанізацыі. Аўтарскай ідэі Elen Carotte належыць вынаходніцтва этна-дзелавога стылю для сучаснай беларускай моладзі", — гаворыцца на „вышыванкаўскім" сайце.

У адрозненні ад іншых бізнесаў Elen Carotte не робіць таямніцу з таго, хто працуе над праектам. Гэта Алёна Маркоўка — вядучая спецыялістка майстэрні, канструктар, дызайнер, распрацоўшчыца аўтарскай вышыўкі і Наталля Кажушкова — таксама спецыялістка майстэрні, а да таго ж канструктар мужчынскага верхняга адзення з 25-гадовым стажам.

Каб пазнаёміцца з узорамі працы майстрых, варта зазірнуць у рубрыку „Каталог". Там мы ўбачым дзіцячае, мужчынскае і жаночае адзенне, якое прыдумалі і могуць пашыць у Elen Carotte. Акрамя гэтага майстрыхі прапануюць невялічкія сувеніры з вышыўкай — ільняныя торбачкі, маленечкія кашулькі, боцікі для калядных падарункаў.

Пару гадоў таму беларускія ўлады, сумуючы па савецкай ураўнілаўцы для народа, узнялі тэму школьнай формы. Elen Carotte не застался ў баку, распрацаваўшы свой варыянт агульнага адзення для беларускіх школьнікаў, зроблены на аснове нацыянальных традыцый. Пабачыць яго можна ў рубрыцы „Школьная форма".

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 135 гадоў з дня нараджэння

# Сцяпана Некрашэвіча

Беларускі мовазнавец і грамадскі дзеяч Сцяпан Некрашэвіч нарадзіўся 8 траўня 1883 г. у вёсцы Данілоўка (цяпер Светлагорскі раён Гомельскай вобласці). Паходзіў ён са шляхецкай сям'і Міхаіла Некрашэвіча, які займаўся сельскай гаспадаркай, і яго жонкі Евы. Сястра Ганна, па мужу Акановіч, у наступным была настаўніцай у амерыканскім Нью-Йорку. Род Некрашэвічаў герба „Любіч" вядомы з XVII стагоддзя і паходзіць са Слуцкага княства.

Пачатковую адукацыю Сцяпан Некрашэвіч атрымаў дома. У 1908 г. скончыў настаўніцкую семінарыю ў Панявежы Ковенскай губерні. Як і многія прадстаўнікі тагачаснага беларускага руху скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут — у 1913 годзе. Працаваў у школе Таварыства цвярозасці ў Цельшынскім павеце Ковенскай губерні. З 1914 г. у час Першай сусветнай вайны — на Румынскім фронце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. абраны ў армейскі камітэт 6-й арміі. Уваходзіў у партыю Беларуская сацыялістычная грамада, затым — адзін з кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

У лёсасным 1918 г. Некрашэвіч апынуўся ў Адэсе, быў там загадчыкам беларускай секцыі пры губернскім аддзеле народнай асветы. У выніку яе працы ў Адэсе на пачатку 1918 навучальнага года былі адчынены 30 пачатковых беларускіх школ і змешаная беларуская гімназія ў складзе першых чатырох класаў, у якой навучаліся дзеці ўцекачоў з прыфрантавых тэрыторый Беларусі.

Пасля абвяшчэння БНР у 1918 г. Некрашэвіч стаў прадстаўніком яе ўрада на поўдні Украіны і ў зносінах з французскім камандаваннем Антанты. Быў прыхільнікам фармавання беларускай арміі для барацьбы з бальшавікамі. Стаў старшынёй Беларускага нацыянальнага цэнтра, які быў створаны 13 студзеня 1919 г. Адначасна вучыўся ў Адэскім вышэйшым міжнародным інстытуце.

Пазней пераехаў у БССР, з 1920 г. стаў загадчыкам літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамасветы, займаў шэраг іншых пасад. Удзельнічаў у арганізацыі Інстытута беларускай культуры, у 1922-1925 гг. быў яго першым старшынёй.

З пачатку 1925 да ліпеня 1926 г. быў на падвышэнні мовазнаўчай кваліфікацыі ў Навукова-даследчым інстытуце мовы і літаратуры пры Ленінградскім універсітэце, працаваў пад кіраўніцтвам Яўхіма Карскага. Далей зноў працаваў у Мінску на розных пасадах. Важнейшымі працамі навукоўца ў галіне лексікаграфіі сталі „Беларуска-расійскі слоўнік" (1925), а таксама „Руска-беларускі слоўнік" (1928). Абодва слоўнікі былі ўкладзены разам з Міколам Байковым. Гэтыя слоўнікі карыстаюцца попытам і сёння.

21 ліпеня 1930 г. арыштаваны Дзяржаўным палітычным упраўленнем БССР па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай калегіі Аб'яднанага ДПУ СССР прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў г. Сарапул (Удмурція, Расія). У 1936 г. тэрмін высылкі падоўжаны на 2 гады. Працаваў планавіком-эканамістам кааператыўна-прамысловай арцелі інвалідаў, затым бухгалтарам канторы „Нарыхтзерне". Паўторна арыштаваны ў лістападзе 1937 г., прывезены ў Мінск, 19 снежня 1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Сцяпан Некрашэвіч па другім прысудзе быў рэабілітаваны ў 1957 г., а па першым — толькі ў 1988 г.

Памяць пра таленавітага навукоўца ўшанавана ў роднай Данілоўцы — на месцы былога фальварка ўсталяваны памятны знак. А ў будынку ў Мінску, дзе некалі быў Інбелкульт, усталявана мемарыяльная шыльда з імёнамі выдатных асоб, сярод якіх і прозвішча Некрашэвіча.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Нараўчанскія пейзажы



Выстаўку карцін беластоцкага мастака Казіміра Юргелянца 28 красавіка гэтага года адкрылі ў Галерэі імя Тамары Соланевіч. Яе падрыхтавалі з нагоды пятай гадавіны смерці выдатнага мастака-пейзажыста. Экспазіцыя складаецца з 34 карцін і займае дзве залы ў галерэі.

Казімір Юргелянец удзельнічаў у дванаццаці пленэрах, якія ладзілі ён і гайнаўскі мастак Віктар Кабац у вёсках Нараўчанскай гміны. Мастак найлепш адчуваў сябе ў Старым Ляўкове і ў Нараўцы. Намаляваў ён многа карцін. Быў вельмі працавітым жывапісцам. На яго карцінах адлюстраваная Нараўшчына, яе самыя прыгожыя закуткі ў розныя поры года. Тут і Белавежская пушча, і завілістая і ў многіх месцах дзікая пушчанская рака Нараўка, вось хаця б каля Косага Моста, і квяцістыя летнія надрэчныя лугі. На карцінах бачны драўляныя хаты арыгінальнай вясковай архітэктуры, якія захаваліся ў пушчанскіх сёлах і іншыя вясковыя краявіды. Такія карціны рэалістычнага мастацтва мне асабіста вельмі падабаюцца.

Гміннная ўправа і ГАК у Нараўцы выдалі прыгожы буклет са змястоўным артыкулам пра мастака і ягоныя карціны. У ім, між іншым, пару дзясяткаў каляровых фотаздымкаў карцін на 20 старонках вялікага фармату.

Выстаўку можна глядзець у галерэі да канца лета. Арганізатары запрашаюць.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Археалагічныя раскопкі ў Чаромсе

На адной прыватнай нерухомай уласнасці ў Чаромсе знаходзілася магіла здзейсненага гітлераўцамі забойства ў 1942 годзе. Эксгумацыя закончылася перад вялікодным святам. Астанкі сямі закатаваных ляжалі на жыватах у радку, адзін побач другога. Магілка была ўсім добра вядомая, знаходзілася на ёй надмагілле. Пасведчылі за тым як сведкі, так і дакументы.

— Эксгумацыя была выканана па загадзе старшыні Інстытута нацыянальнай памяці ў сувязі са зменай заканадаўства, — патлумачылі працаўнікі Бюро пошукаў і ідэнтыфікацыі ІНП. — Нікому дагэтуль не было вядомым, што астанкі былі ў так асаблівы спосаб пахаваны, неглыбока пад паверхняй зямлі, побач магілы. Пасля судова-медычнага агляду астанкі будуць пахаваны на парафіяльным могільніку ў Чаромсе.

Паводле гісторыкаў ІПН закатаваныя былі польскай і беларускай нацыянальнасці. У работах удзельнічаў д-р габ. Кшыштаф Швагжык, віцэ-старшыня ІПН і заадно начальнік Бюро пошукаў і ідэнтыфікацыі. Археалагічныя раскопкі наведаў консул РБ, наглядаў таксама прадстаўнік яўрэйскай рэлігійнай абшчыны.

**Апр. (УС)**

# Будзе аднаўлены чыгуначны рух у Беларусь

Некалькі год таму быў адменены рух цягнікоў на чыгуначным пагранпераходзе Чаромха — Высока-Літоўск. Як паведамілі СМІ, цяпер вядуцца перагаворы паміж прадстаўнікамі рабочых груп чыгуначных прадпрыемстваў ПЛК і Карго ды беларускай чыгункі. Прадбачваецца, што рэйс Чаромха — Высока-Літоўск будзе запушчаны ў ход яшчэ ў гэтым годзе. Першыя цягнікі з Чаромхі ў Беларусь рушаць сёлета восенню. Кошт аднаўлення дамовы не будзе надта высокім, паколькі раней такое транспамежнае злучэнне існавала. Аднаўленне пагаднення і пуск у ход цягнікоў з Чаромхі ў Беларусь зменшыць транспартны рух на пераходзе Тарэспаль — Брэст, праз які перапраўляюцца, між іншым, тавары з Кітая.

**(УС)**




# 13.05 — 19.05

**(22.03. — 20.04.)** 12-14.05. вырашэнні праблем акажуцца быць вельмі простымі. 13.05. шэф ацэніць тваю працу не толькі добрым словам. Але можа ў той дзень чакаць цябе непрыемная размова. Пасля 15.05. трэба будзе змераць свае сілы з канкурэнцыяй. Раман наладжаны ў палове тыдня можа прынесці праблемы Баранам народжаным у канцы знака. Новых знаёмых трымай лепш на адлегласці і поўнасцю не давярай. Парабі дробныя неабходныя рамонты. Прапанову працы добра абдумай.

**(21.04. — 21.05.)** Набярэш вопыту, паправіш свае кваліфікацыі. Шмат спраў убачыш у новым святле. Маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці цікавым, але не спяшайся, будзь асцярожным аж да 19.05. Неспадзяваны візіт сваякоў 18-19.05. Не пакажы, што прыбылі не ў час! Тым больш што цяпер можаш зрабіць рамонт або пашукаць новага жылля. З 13.05. добры момант пачаць навуку, абараняць працу. Мноства энергіі. 17-19.05. паладзіш прыемнасць з абавязкамі. 13-19.05. Бараны з першай дэкады павінны пільнавацца са здароўем, на вуліцы ці з вострымі прыладамі.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш вельмі вабны для іншага полу! Але не абгаворвай важных спраў аб будучыні 12-14.05. На працы займайся сваёй дзялянкай, давядзі да канца пачатыя справы. Не ўдасца весці сваёй дзейнасці і адначасова быць на штаце. Ад чагосьці трэба будзе адмовіцца; не вырашай гэтых спраў 14-16.05.

**(23.06.—23.07.)** Не спяшайся з рашэннямі і выбарамі, найлепш яны самі складуцца. 13.05. не злуйся. Новыя напрамкі дзеяння падкажуць табе зоркі пасля 15.05. Досыць цяжкі час у адносінах. Найлепш не ўключайся ў канфлікты, не слухай плётак высмактаных з пальца. 12-17.05. будзь тактычным і ветлівым, каб не пакрыўдзіць блізкай асобы. Хтосьці, каго ты меў за прыяцеля, да 17.05. можа цябе падвесці. Але паслухай яго аргументы. Не забывайся пра важныя справы, найлепш працуй па плане. 17-19.05. убачыш рэальныя рэзультаты сваіх стараннаў.

**(24.07. — 23.08.)** Справы складуцца добра, хаця будуць перашкоды, якія прымусяць цябе да змены курсу. 12-14.05. можаш пазнаёміцца з людзьмі, на якіх можаш заўсёды разлічваць. Хочаш узмоцніць сямейныя лады? Запрасі сваякоў, таксама здалёк, без ніякай нагоды. Хаця амбіцыі растуць, пакуль не высоўвайся ў першы рад. Калі шукаеш новую працу, не бойся апублікаваць там, дзе патрабуюцца кампетэнцыі большыя чым маеш — на размове акажаш вялікае ўражанне. Шпацыруй, глыбока дыхай, прымяняй прэпараты з магніем.

**(24.08. — 23.09.)** З розных складаных сітуацый знойдзеш выхад. Спадзявайся новых прапаноў. Абяцанне поспеху і прызнання. Але 12-13.05. сям'я будзе наракаць, што яе ты занядбаў. А 18-20.05. хтосьці з сямейнікаў можа спакаваць чамаданы і выселіцца. Новыя ўмеласці толькі чакаюць, каб спатрэбіцца. Грошы выдай найлепш на штосьці нематэрыяльнае. Дбай каб спаліць лішак калорый.

**(24.09. — 23.10.)** Ты поўны красы і вабнасці. 13.05. нават у добрых парах будзеце крыху падкусвацца. Да 17.05. старайся, каб не апынуцца ў небяспечнай сітуацыі. У дасягненні мэты не перашкодзіць нават Меркурый у апазіцыі. 12-14.05. можаш апынуцца ў загранічнай камандзіроўцы, на даўжэйшым абучэнні ці кірмашы. Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі і многаму навучышся.

**(24.10. — 22.11.)** Завядзеш парадкі ў сардэчных справах. Будзеш сур'ёзным праціўнікам. Дасягнеш кожнай мэты. Раззвоняцца твае тэлефоны, прыйдуць мэйлы і лісты. У адным з іх Скарпіёны народжаныя ў II дэкадзе атрымаюць запрашэнне на шлюб, хрэсьбіны ці юбілей. Пасля 16.05. млын на працы. Асцерагайся рызыкоўных інвестыцый 12-17.05.; хтосьці схоча ўвапхнуць кіёк у твае спіцы.

**(23.11. — 22.12.)** 12-14.05. ніякая нагода не пройдзе каля твайго носа! 13.05. не дай сябе ўцягнуць у канфлікт. Да 15.05. крыху запаволь тэмп свайго жыцця. Да 18.05. мноства нагод да фліртаў. На працы з 15.05. арыентуешся, на якім баку стануць. Пасля 16.05. зможаш узяцца за большыя выклікі. Можа чакаць цябе невялікая хірургічная працэдура. 17-19.05. дома вызнач ясныя правілы.

**(23.12. — 20.01.)** Не спяшайся, не перанапружвайся. Патрэбная самадысцыпліна. Свае намеры, усё ж, давядзеш на фіналу. Сябры пра цябе не забыліся, не выкрасляй іх са сваіх знаёмых! 13-17.05. не рабі нічога на сваю шкоду.

**(21.01. — 19.02.)** Выдатная кампанія. Нагоды для сустрэч і фліртаў. 12-14.05. адчуеш да кагосьці вельмі моцнае прыцягненне. 13-14.05. глядзі, каб твае ўласныя словы не былі выкарыстаныя супраць цябе. Пасля 15.05. перастане цябе турбаваць здароўе. Ад 16.05. змабілізуешся да адважных, энергічных дзеянняў. 17-19.05. адновяцца старыя, вельмі калісь важныя для цябе кантакты.

**(20.02. — 21.03.)** Маеш шанцы на здзяйсненне сваіх мар. Лаві нагоды! Паправіцца стан тваіх рахункаў. Вырашальны час для адносін. Важныя рашэнні ў справе кар'еры. Выключ тэлевізар, адключыся ад сеціва, пакінь тэлефон і ідзі на шпацыр. Еж пчаліны пылок.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. яравая збажына, якой зернем кармілі коней = 26 _ 13 _ 17 _ 18 _;
2. кантынент з Гімалаямі = 30 _ 20 _ 29 _ 36 _;
3. горы з Джамалунгмай = 5 _ 6 _ 7 _ 8 _ 22 _ 21 _ 4 _;
4. няпрошаны горшы за татарына = 34 _ 35 _ 12 _ 10 _ 11 _;
5. травяністая расліна з Індыі на вяроўкі, канаты = 31 _ 24 _ 19 _ 49 _;
6. лютэранская царква = 37 _ 38 _ 40 _ 39 _ 41 _;
7. геаметрычнае цела, якое ўтвараецца вярчэннем прамавугольнага трохвугольніка вакол аднаго з яго катэтаў = 2 _ 14 _ 3 _ 43 _ 27 _;
8. найменшы палец на руцэ = 44 _ 45 _ 42 _ 46 _ 25 _ 23 _ 28 _;
9. гарбата = 51 _ 50 _ 15 _;
10. дзяржава за заходняй мяжой Аргенціны = 47 _ 48 _ 16 _ 1 _;
11. штат між Невадай і Каларада = 9 _ 32 _ 33 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | | | | | |
| 12 | 13 | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 | | |
| 19 | | | | | | | | | |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | 32 | 33 | 34 | 35 | | | |
| 36 | 37 | | 38 | 39 | | | | | |
| 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | | | |
| 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | | | | | |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Пруток, прыход, хрыбет, сілуэт, Вільня, войт, барсук, прывілея.

Рашэнне: **Хто лісліві, той кусліві**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Вясновы зрух на Украіне і ў Польшчы

Абочынай міжнароднай дарогі цягнуўся воз з гноем. Лёгкі конік, аброблены па жывот ляпёшкамі, без боязі перамяшчаўся паўз бясконцай чаргі нямецкіх, польскіх, італьянскіх і расейскіх аўтафур...

Мужыкі ў рабочых, задрыпаных апранахах, што выседжвалі на возе з гноем, смалілі папяроскі і нешта дзелавіта абмяркоўвалі. Будзённы, прыземлены выгляд дзейнічаў як камуфляж. Здаваліся яны часткай краявіду, непрыкметнымі гаспадарамі.

У іх бок зайздросна пазіралі кіроўцы аўтафур, прыбітыя чаргой і вясновай спёкай. А чарга доўжылася ад Ягадзіна за Любомль, больш за дванаццаць кіламетраў.

Выстойвалі яны ў невялікіх групах, у кароткіх штоніках, з якіх выліваліся пузатыя жываты. Асавелыя, выбітыя з рытму, глядзелі на сярмяжную фурманку, якая без спеху ехала на сваё поле. Корпацца ў свежай, сагрэтай вясновым сонцам зямлі — прыемны занятак. Такія думкі наклікала актыўнасць туземцаў, якія як мурашы ад рання шчыравалі на загонах. Побач міжнароднай дарогі, дзе не глянь, растрасалі яны гной, садзілі бульбу, закладалі агароды. Самы вялікі зрух панаваў пры пасадцы бульбы. Працавалі цэлымі сем'ямі — старыя, маладыя, дзеці. Паўз разораных баразёнак, гуськом, завіхаліся прыгорбленыя постаці. Рытм працы падбіваў араты з канём. Ён вёў плуг следам работнікаў і спраўна заворваў карычневыя скібы з бульбай.

На захадзе Еўропы, а таксама ў Польшчы, няма ўжо такіх прыдарожных, вясновых карцінак. Хіба што ажыццяўляюць праект па рэканструкцыі забытых заняткаў.

Але тут не рабілі паказухі, усе працавалі паводле прыказкі: «Як не пасееш — дык не пажнеш!».

Пры многіх загонах стаялі шыкоўныя легкавыя машыны, частка якіх мела польскія, *люблінскія* нумары. Завіталі на час пасадкі бульбы сямейнікі з недалёкай эміграцыі, каб дапамагчы бацькам і сваякам. Яны восенню аддзячаць ім бульбай, агароднінай і ўсім астатнім, што вырасце на градках. У такіх краях як Украіна трэба разлічваць на сябе, сям'ю і зямлю.

* * *

Украінскі свет з перспектывы разгоненага аўтамабіля здаваўся будзённым і адначасова святочным, чароўным...

Значную частку ландшафту займалі пасевы квітнеючага рапсу. У такіх месцах пахла салодкім мёдам з рапсавага цвету.

Не менш вабнымі здаваліся хатнія агародчыкі. Ля акон красаваліся разнаколерныя цюльпаны і белыя нарцысы. Усюды адначасова цвілі слівы, яблыні, грушы, чаромха, бэз... У гарадскіх агародчыках што крок красаваліся белыя і ліловыя магноліі.





З падобнай сілай манілі дзікія лугі з плахтамі белай і ружовай сніткі ды жоўтых дзьмухаўцоў. У падмоклых далінах рэк Стыр і Тур'я залацілася лотаць і кружылі драпежныя канюкі. Каровы і коні, пахудзелыя за зіму, прагна пасвіліся на мурагу. Побач тапталіся гусі, авечкі, козы...

Каля Луцка і Дубна таксама садзілі бульбу і закладалі агароды. Мужык у скураным капелюшы і ружовай, расхрыстанай кашулі перакапаў ужо байкаваты загон рыдлёўкай і, абапершыся на лапату, гутарыў з суседам. Той раўняў жалезнымі граблямі градкі на ўзараным прастакутніку, на якім жанчына садзіла цыбулю. Гараджане, у адрозненне ад вяскоўцаў, якія працавалі цэлымі сем'ямі і з дапамогай каня, завіхаліся ў адзіночку або ў парах. Бульбу садзілі ў назначаных радках як моркву і буракі, пад ключку.

Тут таксама ў меншай меры карысталіся натуральным гноем. Адначасова ашаламляла колькасць мініяцюрных загонаў. Яны састаўлялі асаблівую мазаіку на кожным прыгарадскім полі або ўзгорку. Пік сельскагаспадарчай гарачкі ўспыхваў тут па суботах і выхадных. Тады наваколле гарадоў напамінала сапраўдны мурашнік.

Праўда, назіраць за краскамі Валыні можа свабодны пасажыр. За рулём іншыя «кветкі». Дзіравая і схваляваная дарога між Луцкам і Дубнам застаўляе ехаць сламам. На дадатак тут заўсёды нехта хоча кагосьці абагнаць і дзіка трубіць у знак абурэння.

* * *

Мая дарога з Беластока праз Валынь вяла ў Пачаеў. У гэты раз у манастыры пабывала няшмат паломнікаў. Камеральная атмасфера і ўзнёсласць месца дапамагалі засяродзіцца на малітве. Ніякіх прапагандысцкіх прамоў, варожасці. Будзённы воблік манастыра натхняў цішынёй і морам квітнеючых цюльпанаў.

Дзе падзеліся паломнікі?

Ці спынілі іх сельскагаспадарчыя справы і агароды? Ці можа абмежаваў эканамічны крызіс у краіне? Цягам апошняга года значна павысіўся кошт падарожжа.

Ужо на першай украінскай аўтазапраўцы, быццам на дражджах, вырас „шчот" за паліва. Прыблізна як бензін, недзе на трыццаць адсоткаў, павысіўся кошт начлегаў у гасцініцах і харчаванне ў сталовых і рэстаранах. У гатэлі сярэдняй маркі, дзе раней спыняліся паломнікі з Украіны, зараз пражывалі адны госці з Румыніі.

Кошт турыстычных паслуг прыблізна ўжо такі як у Польшчы.

Таксама пасля перасячэння ўкраінска-польскай мяжы ў Ягадзіне і Дарагуску на плечы звалілася стомленасць. У гэты раз чаргу спецыяльна зацягнулі палякі, якія трымалі на сваім баку чатыры гадзіны. У паваротнай дарозе сустрэла нас навальніца з градам. Але пасля буры ўсё адмянілася. Польшча зараз здавалася надта прыгожай, задбанай і багатай краінай. Тут таксама расцвілі яблыні, бэз, грушы, чаромха, магноліі і цюльпаны.

І ўсюды, дзе не глянь, усе адпачывалі, грылявалі і святкавалі!

Карацей кажучы, ніхто не садзіў уручную бульбы і не корпаўся ў зямлі. Праўда, у дарозе ў сваю родную вёску я сустрэла групу рабочых. Нягледзячы на спякотнае надвор'е яны махалі лапатамі і ладзілі тратуар. Прыехалі на заробак з Украіны.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 19